
Нараўчанкі → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



„Жаваранкі” над морам → 10


http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 46 (2948) Год LVII

Беласток, 11 лістапада 2012 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Беларусі праблема Захаду

Размова з Дзмітрыем Бандарэнкам, у цяперашні час эміграцыйным беларускім грамадскім і палітычным дзеячам, каардынатарам ініцыятыў „Хартыя-97” і „Еўрапейская Беларусь”, былым мужам даверу кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 2010 г. Андрэя Саннікава, асуджаным на два гады турмы, у красавіку 2012 г. датэрмінова звольненым з турмы за падпісанне г.зв. лаяльні (выключна фармальна) у адносінах да ўлад у Мінску.


Фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

Дзмітрый Бандарэнка

„Ніва”: **— Калі мы сустракаемся, выявілася, што з польскага Міністэрства замежных спраў выплыла ўнутраная база дадзеных датычная прагрэсіўнай дапамогі, у тым ліку апісанні праектаў з іх палітычнымі мэтамі і сумы на падтрымку беларускай апазіцыі. Гэтыя інфармацыі апынуліся на г.зв. публічным дамэне, значыць, на агульнапольскім інтэрнэтным сайце, а раней некалькі месяцаў былі даступныя на адным з амерыканскіх сайтаў (дадзеныя перадаў адзін з чыноўнікаў МЗС у Варшаве). Што Вы скажаце наконт гэтага?**

Дзмітрый Бандарэнка: — Толькі цяпер я даведаўся аб усёй гэтай справе (размаўлялі мы ў Беластоку — М. Х.). Мала ў мяне інфамацый і не ведаю, на якім амерыканскім сайце стаяла гэта інфармацыя. Ёсць тут нейкая супярэчлівасць. У дэмакратычных краінах кожная дапамога павінна быць празрыстай і натуральным з'яўляецца тое, што згодна з польскім законам такая інфармацыя можа быць агучана. Гэтая дапамога ідзе на падтрымку СМІ, правоў чалавека і адкрытага грамадства. Аднак, у такіх краінах як Беларусь, а сёння гэтая краіна фактычна таталітарная, аказваецца, што такая наяўная інфармацыя можа людзям зашкодзіць. На гэтай падставе людзі могуць проста трапіць у турму, так як было ў выпадку выяўлення інфармацый датычных Алеся Бяляцкага. Трэба сабе ўсвядоміць, як я ўспомніў, што Беларусь гэта таталітарная дзяржава. У 80 працэнтах прыгадвае сітуацыю Польшчы, якая была ў час ваеннага становішча.

**— Як Вы ацэньваеце тое ўсё, што тут адбывалася ў сувязі з апошнімі парламенцкімі выбарамі ў Беларусі?**

— Хаця прабавалі падзяліць апазіцыю ў Беларусі, усе былі згодныя, што тыя выбары не былі ані свабодныя, ані дэмакратычныя. Гэта не былі выбары. Дэмакратычныя суб'екты Беларусі па-свойму прабавалі выкарыстаць тут сітуацыю на свой спосаб. Для мяне ў гэтых выбарах было найважнейшым, як іх выкарыстаць для вызвалення палітвязняў. Патрэбна была ў гэтай справе рашучая і аднагалосная пазіцыя ад самога пачатку: пакуль не будуць яны вызвалены, не можам удзельнічаць у выбарах. У момант калі выехалі паслы (перад выбарамі Аляксандр Лукашэнка выдварыў паслоў Польшчы і Еўрасаюза, а іншыя еўрапейскія паслы неадкладна на знак пратэсту самі пакінулі Беларусь — М. Х.), лідары апазіцыйных партый зрабілі заяву, што будзем у выбарах удзельнічаць. На маю думку было гэта глупства. Думаю, што ў кантэксце, датычным звальнення палітвязняў, гэтая выбарчая кампанія не была выкарыстана так, як магла быць.

**— Што далей? Што цяпер павінен зрабіць Еўрасаюз?**

— Трэба памагаць незалежным СМІ, вяшчаючым на Беларусь. Сёння засталося ў Беларусі некалькі газет і дзейнічаюць яны ў рэжыме самацэнзуры. Паступова ўзбуджаюцца справы супраць журналістаў, працуючых у Беларусі. Еўрасаюз можа дапамагчы ў распаўсюджванні незалежнай інфармацыі ў Беларусі і трэба гэта рабіць усур'ёз, а не ў імітацыйным плане. Радыё Рацыя гэта радыёстанцыя з рэальнымі атрымальнікамі, а для яе развіцця не хапае сродкаў, няма гарантыі, што з ёю будзе праз год, на якіх фінансавых прынцыпах будзе функцыянаваць. Патрэбна таксама дапамога тэлеканалу Белсат, фінансавая, але і менеджарская. Цяпер, калі я пастаянна ў Польшчы, гляджу Белсат і польскія агульнадаступныя каналы і больш падабаюцца мне тыя другія. Трэба, мабыць, дапамагчы гэтай тэлестанцыі таксама ў кадравым плане. Патрэбная дапамога сайту „Хартыя-97”, які сёння працуе з Варшавы і Літвы і, вядома, іншым незалежным інтэрнэтным інфармацыйным сродкам, якія — у адрозненне ад Кітая — у Беларусі маюць поле для распаўсюджвання свабоднага слова. Мне здаецца, што ўсе гэтыя праекты, аб якіх я ўспомніў, знаходзяцца ў напаўзадушаным стане. Разумею, што нейкія адносіны трэба ўтрымліваць з дзяржавай Беларусь, таму што шмат неразвязаных праблем: транспартных, энергетычных ці ў чыста чалавечым маштабе. Чаму, аднак, няма сёння моцных СМІ, якія перадаюць інфармацыю на ўвесь абшар краіны, не разумею. Трэба ўцяміць, што 19 снежня 2010 г. у Беларусі (апошнія прэзідэнцкія выбары, пасля якіх наступіла хваля рэпрэсій — М. Х.) гэта дата падобная да 13 снежня 1981 года ў Польшчы. Усе метады, якія прымяняліся да гэтай даты, не спрацоўваюць сёння. Цяпер Лукашэнка зразумеў, што прайграў. Ён вельмі напалоханы, асабліва пасля таго як пабачыў тое, што адбываецца з яго любімцамі, дыктатарамі ў арабскіх краінах. Зразумеў, што можа будзе прымушаны змагацца не толькі за ўладу, а нават за жыццё. КДБ кардынальна змяніў спосаб змагання з беларускай апазіцыяй і магу гэта пацвердзіць на ўласным досведзе. Мне сказалі ў вочы, што задачай КДБ з'яўляецца давядзенне да стварэння кантраляванай апазіцыі, а я маю падпісаць з імі дэкларацыю аб супрацоўніцтве. Іншых, каб дасягнуць гэтай мэты, катавалі, іншых запалохвалі інакш. І гэта сённяшняя рэальнасць. Сёння яны змагаюцца з апазіцыяй і журналістамі як з тэрарыстамі. Гаварыць сёння, што будзем дзейнічаць так як раней — немагчыма, бо ўлада змяніла свой падыход.

**— Калісь Лукашэнка паўтараў, што быў бы задаволены, калі б усе апазіцыянеры з'ехалі з Беларусі за мяжу. Чаму Вы рашылі застацца за мяжой Беларусі?**

— У мяне быў невялікі выбар: або быць у турме, або працаваць пад поўным кантролем КДБ, ці якраз з'ехаць. Я лічу, што ў такой сітуацыі магу згэтуль рабіць больш чым там. Лукашэнка ў тры тыдні пасля таго як нас выпусціў (гаворка пра трох палітвязняў звольненых з турмы раней узамен за падпісанне дэкларацыі аб лаяльнасці ў адносінах да ўлады — М. Х.), у тэлебачанні сказаў нам: будзеце вякаць — зноў апынецеся ў турме. Я не намерваюся скласці рукі і бачу, што цяпер дзейнасць з-за мяжы вельмі важная для Беларусі, хаця б якраз праз перадачу адсюль інфармацыі. Апрача гэтага азваўся мой арганізм. Я займаюся актыўнай апазіцыйнай дзейнасцю ад пятнаццаці гадоў, а мне 49. На месцы актыўна, мабыць, павінны маладзейшыя паваяваць, а я буду дзейнічаць крыху памалейшым, іншым струменем з замежжа.

**— А ці ўплыванне на Лукашэнку эканамічнымі метадамі, у тым ліку санкцыямі, мае поспех?**

— Вядома, падтрымліванне эканамічных стасункаў з Лукашэнкам прыносіць эфекты перш за ўсё Лукашэнку. За апошнія два гады пераканаўся ён, што нягледзячы на ўсе словы пагрозы плывучыя з Еўрасаюза, аб'ём гандлю павялічыўся ў два разы. Сёння кантрабандыцкія пастаўкі нафтапрадуктаў на Захад лічацца ў мільярдах долараў, а апрача таго, што найважнейшае, хтось тыя нафтапрадукты купляе на Захадзе. Лукашэнка дакладна зразумеў, што словы гэта словы, грошы — грошы, а гандаль гэта грошы. Беларуская праблема гэта не толькі праблема беларускай апазіцыі ці беларускага народа, але таксама і Захаду. Карупцыйныя механізмы на Захадзе дзейнічаюць. Хтосьці з Захаду ўрэшце ж гандлюе гэтай кантрабандай. Гэта дыфузія дэмакратычнай, еўрапейскай сістэмы.

**— Гэта праўда, што грошы ад гандлю нелегальнымі нафтапрадуктамі з Беларуссю, якія плывуць з Захаду, ідуць на ўтрыманне сістэмы Лукашэнкі, напрыклад, на зарплаты ў сілавых дэпартаментах, у тым ліку працаўнікоў КДБ?**

— Вядома. Калі мелі мы ў Беларусі крызіс у 2011 г., зарплаты супрацоўнікаў міліцыі рэзка ўпалі і гэта выклікала ў іх шэрагах хвалю незадавальнення. Сядзеў я тады ў магілёўскай калоніі № 15 і ўсе міліцыянеры там гаварылі толькі аб тым як перажыць. Старшыя прапаршчыкі мелі раней у месяц каля 500 долараў, а засталося ім па 200-250. І гэта было для іх шокам. Калі продаж нафтапрадуктаў павялічыўся, зноў падраслі ў першую чаргу заробкі міліцыянераў. Апрача таго маюць яны доступ да танных крэдытаў, будуюцца для іх кватэры, напрыклад, для мінскага АМАПа. Калі растуць даходы ад кантрабанды нафтапрадуктаў, у першую чаргу растуць зарплаты ў карацельных органах, як яны з гонарам самі сябе называюць, кажучы, што Лукашэнку яны заўжды будуць патрэбнымі.

**— Ці, на Вашу думку, у Беларусі да дэмакратычных перамен можа дайсці праз круглы стол, як калісьці ў Польшчы ў час, пра які Вы ўспомнілі, ці шляхам рэвалюцыі на вуліцах?**

— Бываючы ў турме КДБ, я звяртаўся да калег і праз нейкі месідж да грамадства, адзначаючы, што з беларускага палітычнага крызісу можам выйсці мы самі, самі беларусы. Для таго аднак трэба мець Ярузельскага, такога як ён — вайскоўца ў трэцім пакаленні, прытым шляхціца. Лукашэнка, на жаль, такі не ёсць. Кіруе тыя васемнаццаць гадоў і думае, што гэта будзе заўжды. Быў я нядаўна на сустрэчы ў Брусэле, дзе быў круглы стол прысвечаны Беларусі і выступаў там Вітаўтас Ландсбергіс (першы прэзідэнт незалежнай Літвы ў посткамуністычны час — М. Х.). Сказаў ён, што ў краінах былога СССР людзі такія як Лукашэнка ментальна прыходзяць да ўлады назаўжды. Ці ў Беларусі будзе румынскі варыянт, ці аксамітная рэвалюцыя, ці Лукашэнка заменены будзе з Масквы як калісьці іншыя правадыры, — разважаюць такія варыянты.

**— Нядаўна, у час адной з сустрэч у Варшаве, некаторыя прадстаўнікі беларускай апазіцыі выказаліся за аднабаковае ўвядзенне Польшчай польска-беларускага малога памежнага руху. Ці Вы падтрымліваеце такую задуму?**

— Як жыхар Мінска я хацеў бы, каб еўрасаюзныя візы для грамадзян Беларусі былі бясплатныя і быў бы гэта крок больш значны чым аднабаковыя дзеянні Польшчы. Аднабаковае рашэнне Польшчы магло б быць успрынята як яе слабасць.

**— Дзякуем за размову.**

Размаўляў Мацей ХАЛАДОЎСКІ





# Трава пад снегам

На мінулым тыдні выявілася, што бітва за ўраджай у Беларусі яшчэ не скончылася. Якраз выпаў першы снег і пайшлі ўладныя сакрэтныя дырэктывы па гарадах і вёсках з усіх бакоў. Але ў XXI стагоддзі вельмі цяжка ўтаіць нейкую інфармацыю, тым больш што схаваць такія аўральныя працы досыць цяжка, а сучасныя тэхналогіі дазваляюць хутка перадаць сітуацыю. Вось і застракацеў інтэрнэт паведамленнямі з усіх бакоў. Так, у Талачынскім раёне ў мястэчку Коханава не паспелі абтрэсці ўсіх яблык — на падмогу па іх збіранні нават з суседняй Оршы пагналі людзей. Называецца гэта добраахвотная шэфская дапамога, практыка, якая шырока прымянялася яшчэ ў савецкія часы. У Глыбоцкім раёне не сабралі ў час лёну — і тут была абвешчана татальная мабілізацыя. Ну, але тут хоць логіка нейкая ёсць — кепскія гаспадары, выявілася чыясці нядбайнасць, але схамянуліся і імкнуцца ўраджай ўратаваць. Сабралі паўгнілы лён — хоць нейкі плён.

А вось у Гродне пайшлі куды далей — сапраўдным хітом інтэрнэтнай прасторы стала відэа, як у горадзе над Нёманам косяць траву пад снегам. Чалавек выйшаў на працу па заранёў зацверджаным графіку, не зважаючы на надвор'е. І сумленна шчыраваў на даверанай яму ніве — так што аж снег ляцеў ва ўсе бакі. Вось яна сапраўдная працоўная дысцыпліна! Складваецца ўражанне, што галоўная мэта ўлады — заняць працоўныя масы бяздумнай дзейнасцю. Тыя ж газонакасілкі сталі сапраўдным сімвалам бесталковага выдаткавання сродкаў. Косяць яны траву ў кожную пару — пачынаюць як толькі праб'ецца па вясне першая зеляніна. Косяць, як стаіць на двары сапраўдная спёка. Ды так зацята, што не даюць ніякіх шанцаў нават атаве — у выніку вакол жылых дамоў утвараецца выпаленая зямля. А цяпер косяць нават пад снегам — сапраўдная эканоміка рыначнага сацыялізму. Зрэшты, сутнасць тут не толькі ў нядбайнасці і абсурднасці жорстка адміністраванага гаспадарання. Нехта, зусім невыпадковы, атрымаў права на закупку касілак, нехта размяркоўвае паліва для іх запраўкі, нехта складае тыя славутыя графікі — усе пры справе. Прыгадалася мне тут сатырычная камедыя, фільм „Фантан", які быў зняты ў канцы існавання СССР: „А дзе вашы графікі? — Якія графікі? — Вось і падумайце, якія!". З серыі „няма ні ў чым меры" і так званая „губернатарская плітка", якой гадоў дзесяць пакрывалі кожны вольны кавалак гродзенскай зямлі. Пэўныя фірмы добра пагрэлі рукі на гэтым бізнесе. Ходнікі ў многіх месцах горада па шырыні амаль такія як праезная частка. А вось дарожак для ровараў так і не з'явілася, непатрэбныя яны мясцовай уладзе.

А вось, яшчэ адзін яскравы прыклад. Да таго, што ў цёмную пару года на двух слупах на прыпынку ля чыгуначнага вакзала няма ліхтароў і адпаведна святла — ужо месяц нікому справы няма. Эпахальная рэканструкцыя гродзенскага чыгуначнага вакзала — гэта асобная песня. Канца гэтай перабудове пакуль не бачна, але надыдзе час і манументальны будынак, які нагадвае нейкі вялізны саркафаг, прыме ў сваё чэрава тых, хто прыязджае і ад'язджае. Але першыя наступствы рэканструкцыі ўжо відавочныя. Прывакзальны цэнтральны прыпынак, на які дзесяцігоддзямі выходзілі пасажыры цягнікоў, вяртаючыся з іншых гарадоў і сваіх лецішчаў, зараз зліквідаваны. Цяпер з цяжкімі клункамі, валізамі і вёдрамі людзі змушаны цягнуцца метраў сто ў розныя бакі і чакаць такі рэдкі грамадскі транспарт. Хіба таксістам адным радасць ад гэтага. Праезд на таксі, дарэчы, у Гродне ў два разы даражэйшы, чым у Беластоку. Але ж багаты горад — багатыя людзі.

А яшчэ не так даўно пачаўся ацяпляльны сезон. І амаль адразу ўслед традыцыйныя „раскопкі". Трубы лопаюць чамусьці штогод у адных і тых жа месцах. Пад дамамі пачынаюць сноўдаць экскаватары і шматлікія рабочыя. Усюды канавы — зіма прыйшла як заўсёды знянацку. І як у той папулярнай некалі песні: „А сніцца нам трава, трава ля дома, зялёная, зялёная трава"...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Лета 2012 года (2)

Прыпамінаючы густы старажытных рымлян скажам яшчэ раз, што відовішчаў нам гэтым летам хапала. А вось з хлебам было крыху горш. Нашы шаноўныя ўлады дадумаліся ад народнай буханкі хлеба адрэзаць даволі тоўстую лусту і сабе. Так вобразна можна назваць сёлетнюю рэформу пенсіённай сістэмы. Прадоўжылі працоўны стаж будучым пенсіянерам так, каб яны з гонарам успелі памерці яшчэ ў час працоўнага стажу, а гэтым упірыстым максімальна скарацiць іх пенсіённы час. Ну, проста геніяльна, класіка: менш пенсіянераў будзе путацца пад нагамі працоўнага люду і менш яны будуць каштаваць дзяржаве, два ў адным. Ура! Гэтая геніяльная ідэя ўзнікала ў галовах не толькі нашых правіцеляў. Узнікала яна і паступова рэалізуецца і ў іншых краінах, нават тых багатых, заходніх. У чым жа справа? Ці так раптоўна збяднелі народы? Чаму ж тады як грыбы пасля дажджу паяўляюцца ўсё новыя і новыя мільянеры, нават у нашых бедных краінах? А ранейшыя мільянеры ўжо мільярдэрамі сталі?

Дык у чым жа справа? — пытаюся яшчэ раз. Маўчыце? То я вам скажу. Сучасныя дзяржавы нічуць не збяднелі. Фабрыкантаў, банкіраў і рознай масці капіталістаў у нас і на свеце таксама не паменшала, а пабольшала. Але ім усё мала і мала — і заўсёды будзе мала, бо такая натура капіталістаў і капіталу. Гэта проста ненаедная пачвара. І такою яна была заўсёды. „А мы ведаем капіталізм дваццатага стагоддзя: даволі мілы, лагодны, дабрадушны", — скажаце вы. Так, але стаў ён такім толькі тады і таму, што паявіўся Савецкі Саюз, якога капіталісты страшэнна і небеспадстаўна баяліся. Вось таму ішлі на далёкія ўступкі свайму рабочаму класу, каб хаця не разгневаць яго і не дапусціць у сябе рэвалюцыі. Пра тое, як сапраўды жылося савецкім народам, ніхто за граніцай толкам не ведаў. Ды і паверыць было цяжка ва ўсё тое, што тварылася там. Таму яшчэ раз паўтару: рабочы клас заходніх краін на ўзнікненні Савецкага Саюза скарыстаў вельмі многа. І гэта яны, рабочыя гэтых краін, на плошчах і скверах сваіх гарадоў павінны ставіць помнікі Леніну, Сталіну, Берыі, Дзяржынскаму ды розным Сяргеевічам і Леанідавічам. І спяваць пахвальныя гімны, якія мы ўжо даўно адспявалі, напрыклад: „Первый сокол — Ленин, второй сокол — Сталин", „я другой такой страны не знаю, где так вольно дышит человек" і гэтак далей. Заходнікам ізноў пашанцавала. У свой час нашым грамадствам гэтыя помнікі каштавалі нямала. А цяпер іх купіць можна гатовымі, нядорага і оптам. Нават прывязуць вам іх на месца і замантуюць. Помнікі дабротныя, велічныя, прыгожыя, намоленыя савецкімі ідэямі і духам. Найвыгадней набыць іх у краінах былога Савецкага Саюза ці ў краінах былога сацыялістычнага лагера. Там іх яшчэ мноства і раптам сталі ім непатрэбнымі і грэшнымі, бо ва ўсіх гэтых краінах таксама ўжо свой капіталізм. А іхнія былыя камуністы о-го-го якімі сталі мацёрымі капіталістамі...

Значыць, ізноў адзіным гаспадаром і правіцелем свету становіцца мамона, капітал. Няма каго і чаго яму ўжо баяцца, бо няма сур'ёзнай сілы, якая б яму пагражала. І гэта нядобрая вестка капіталістам. Ёсць, канешне, яшчэ сацыялістычныя Кітай і Паўночная Карэя, але яны ні свайго, ні тым больш чужога рабочага класа бараніць не будуць. Яны ставяць перад сабой зусім іншыя мэты... Вось таму і могуць капітал і капіталісты зноў навязваць свае воўчыя правілы іншым, што яны паціхеньку і робяць. І аб гэтым мы ўжо крыху гаварылі.

Давайце, аднак, пакінем мае лірычныя адступленні і зноў вернемся да сёлетніх летніх падзей ужо ў нашых суседзяў. Пачнем з Украіны, бо многа было супольнага паміж нашымі краінамі. Нашы краіны супольна рыхтавалі і праводзілі „Еўра-2012". Украіне, як і нам, не ўсё ўдалося зрабіць да пачатку спаборніцтваў. Калі адпаведныя стадыёны ім і нам удалося падрыхтаваць, то з дарогамі было ўжо па-рознаму. Службы, слядзіўшыя за парадкам, таксама спраўдзіліся. А вось украінская футбольная каманда аказалася намнога лепшай ад польскай і расійскай. І калі б не здарылася судзейская памылка, то хто ведае дзе аказалася б Украіна. Варта, думаю, закончыць гэту тэму тым, што наша супольная арганізацыя і правядзенне такой вялікай і важнай спартыўнай імпрэзы як „Еўра-2012" нам удалося. Нямала добрых эмоцый даставіла ўсім нам як польская, так і ўкраінская частка еўрачэмпіянату. Нямалую порцыю эмоцый, хаця не толькі пазітыўных, прыносіла і, здаецца, яшчэ доўга будзе прыносіць судзілішча над Юліяй Цімашэнка, а таксама абрады Вярхоўнай рады Украіны. Вось дзе наслухаешся і наглядзішся ўсякай усячыны — крыкаў, лаяння, мардабояў, адным словам, казацкай вольніцы. Адразу відна — праца ўкраінскіх дэпутатаў нялёгкая і небяспечная, таму іх зарплаты заслужаныя. Падабаюцца мне ўкраінцы і таму, што яны шануюць сваю незалежнасць, мову, культуру...

Васіль САКОЎСКІ

Вачыма еўрапейца

# Сорам жарэ вочы



„Сапраўдных сяброў спазнаем у бядзе!" — чытаем у кульмінацыі верша Адама Міцкевіча для дзяцей „Сябры", якая ўвайшла ўжо ў гутарковую мову (не толькі польскую) як прыказка. Гаворка пра бяду, да якой не спрычыніліся адзін аднаму сапраўдныя сябры. Назіраючы больш года за апошнімі правіламі польскага Міністэрства замежных спраў і некаторых польскіх дзяржаўных службаў, раздумваю над тым, як назваць тых, якія называюць сябе сябрамі, а якія змагаюў за дэмакратычныя стандарты ў Беларусі ўганяюць у бяду, заблытваюць іх у турботы з адміністрацыяй уласнай рэжымнай дзяржавы.

Пачалося добрасумленна, з добрай верай (якою пекла выбрукаванае) у чэрвені 2011 г. ад надзялення юрыдычнай дапамогай Беларусі польскай Генеральнай пракуратурай, у выніку чаго быў арыштаваны, а пасля пакараны на чатыры з паловай года выпраўленчай калоніі праваабаронца Алесь Бяляцкі. Пасля гэтай афёры паляцелі галовы і здаваласа, што польскія чыноўнікі рознай масці ўжо павышаны ў інфармаванасці па пытаннях звязаных са стасункамі з Беларуссю, асабліва наконт тых беларусаў, што змагаюцца за дэмакратыю ў сваёй краіне. Не мінула паўгода, як у варшаўскім аэрапорце функцыянеры Памежнай аховы спынілі Алеся Міхалевіча (былога кандыдата на прэзідэнта Беларусі, пасля выбараў катаванага ў час двухмесячнага арышту), з мэтай прывядзення да пракуратуры, паколькі яго прозвішча было занесена ў спіс Інтэрпола як асобы расшукаванай па заяве беларускага боку. Пасля ўмяшання МЗС у Варшаве спыненага звольнілі, а нават ухваліліся, што ведамства замежных спраў купіла яму білет на далейшую дарогу. Кажуць, як тады тлумачыла прэс-сакратарка міністэрства, штосьці падвяло ў механізме супрацоўніцтва з Інтэрполам.

У сакавіку гэтага года МЗС выслала ў Беларусь некаторым апазіцыйным дзеячам падатковыя разлікі PIT з камандзіровачных, атрыманых у час іх удзелу ў адной з канферэнцый у Варшаве. Пасылка была перададзена афіцыйнай поштай з пячаткай польскага МЗС і для беларускіх спецслужб была доказам на тое, што адрасаты займаюцца апазіцыйнай дзейнасцю. Віцэ-міністр замежных спраў Катажына Пэлчынска-Налэнч узяла віну на сябе (biła się we własne piersi) і сказала, што „агучванне польскай падтрымкі адкрытаму грамадству ў Беларусі з'яўляецца непажаданым і адказным". І на гэтым справе быў канец.

На канец у апошнія дні. Унутраная база дадзеных МЗС наконт прагрэсіўнай дапамогі, улічваючая м.інш. апісанні праектаў з іх палітычнымі мэтамі, сумы падтрымкі для беларускай апазіцыі апынулася на агульнадаступным сайце польскага МЗС, а раней некалькі месяцаў была даступнай на адным амерыканскім сайце. МЗС тлумачылася, што „гэта не павінна было апынуцца на публічным дамэне" і звольніла адказнага працаўніка ведамства, а польскі сайт заблакавалі. Пры гэтай нагодзе кіраўнік МЗС Радаслаў Сікорскі прадбачыў увядзенне інстытута... „дыпламатычнай тайны" для — як сказаў — аховы інтарэсаў краіны і людзей, якія з намі супрацоўнічаюць.

Я пасля ўсіх гэтых правалаў падпісваюся пад словамі старшыні Хельсінскага фонду правоў чалавека, якая пасля высылкі беларускім апазіцыянерам фінансавых разлікаў заявіла: „Сапраўды, адчуваю сябе бездапаможнай. Колькі раз можна абурацца, трывожыцца, заклікаць і які ёсць шанц на тое, што гэты заклік, трывога, абурэнне дойдуць туды, куды павінны дайсці. Сорам вочы жарэ, і столькі таго".

І на канец, пры нагодзе стану польска-беларускіх адносін. Гісторыку доктар Алене Глагоўскай, навуковай працаўніцы Кафедры беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку і дзяячцы Беларускага культурнага таварыства „Хатка" ў Гданьску беларускія консульскія службы адмовілі ў выдачы візы. Выбіралася яна на навуковую канферэнцыю ў Гродна і наведаць магілы блізкіх. На адказ чаму — няма чаго разлічваць.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# „Нараўчанкам” 25 гадоў

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА **Калі ў 1987 годзе ў Нараўцы паўставаў беларускі вакальны калектыў, згуртаваліся ў ім маладыя жанчыны і пачалі спяваць свае песні пад акампанемент акардэаніста Міколы Варанецкага. Гэта было свайго роду прадаўжэнне вясковых традыцый, бо прыпушчанскія і пушчанскія сёлы вакол Нараўкі жылі раней са спевам, а і ў самой гміннай мясцовасці людзі любілі паспяваць хаця б на вяселлях, хрысцінах і іншых сямейных сустрэчах. Зараз наогул на сямейных імпрэзах мала спяваецца, бо і ахвотных да спявання штораз менш. Аднак многія жыхары Нараўкі і наваколля ахвотна слухаюць спеву ў выкананні беларускага музычнага калектыву «Нараўчанкі» і прыходзяць на гмінныя фэсты, каб паглядзець выступленні іншых беларускіх гуртоў. 10 лістапада «Нараўчанкі» будуць святкаваць 25-годдзе дзейнасці і гэта будзе добрая нагода для мясцовага насельніцтва, каб у чарговы раз паслухаць беларускія песні ў выкананні свайго калектыву, у рэпертуары якога паяўляюцца штораз то новыя творы.**



Калектыў «Нараўчанкі» з купальскім вянком і музычным кіраўніком Пятром Скепкам

— Я ад пачатку спяваю ў нашым калектыве. Ініцыятарам яго заснавання ў 1987 годзе была Вольга Закройшчык, якая тады была кіраўніком Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы і стала кіраўніком гурту. На яе заклік адгукнуліся тады яшчэ маладыя, больш за трыццацігадовыя жанчыны, а настаўнік Мікола Варанецкі даў згоду састаўляць акампанемент на акардэоне. Мы любілі музыку, хацелася нам спяваць свае песні і быць з людзьмі. Арганізавалі нам многа выездаў, выступаў, быў кантакт з шырокай публікай, — пачала расказваць Зіна Пацэвіч, цяперашні кіраўнік калектыву «Нараўчанкі».

Жанчыны з Нараўкі і наваколля пачалі выступаць на беларускіх фэстах, гмінных мерапрыемствах і прымаць удзел у фестывалі «Беларуская песня». У першым складзе спявалі Вольга Закройшчык, Валянціна Панькоўская, Зіна Пацэвіч, Ала Рубчэўская, Ліля Рубчэўская, Аліна Кабаць, Лідзія Дамброўская, Галена Казёл, Люцына Місяюк і Аляўціна Алясінская. Доўга «Нараўчанкі» выконвалі песні, якія раней спяваліся па вёсках, а рэпертуар падбіраў ім шматгадовы музычны кіраўнік калектыву Сцяпан Копа, які ахвярна прыязджаў з Беластока ў Нараўку, арганізаваў рэпетыцыі і ездзіў з калектывам на выступленні.

— Калі я займаўся з «Нараўчанкамі», жанчыны спявалі чысценька і акуратненька, галасы ў іх прыгожыя былі. Калі выступалі на сцэне, трымаліся там, чаго навучыліся ў час рэпетыцый. Я стараўся падабраць нашыя неапрацаваныя фальклорныя песні, што спяваліся ў наваколлі Нараўкі і на Беласточчыне, якіх вельмі многа ўдалося мне сабраць. Калектыў з Нараўкі выступаў тады з цікавымі песнямі і мелодыямі. Памятаю, што многа песень удалося мне запісаць у распаложаным недалёка ад Нараўкі Міклашэве, дзе жылі рассяпяваныя жанчыны. Пасля Анна Карэтка з прыгожым голасам вылучалася ў калектыве. Калі я перастаў займацца з «Нараўчанкамі», інструктары з Беларусі, што пачалі займацца з гэтым калектывам, сталі ўводзіць у рэпертуар апрацаваныя народныя песні і творы прывезеныя з Беларусі і гэты калектыў памяняў свой характар, — сказаў Сцяпан Копа.

— Сцяпан Копа, які многа часу працаваў з намі, быў чалавекам адданым культуры. З вялікай ангажаванасцю займаўся ён з намі і стараўся, каб мы як найлепш развучылі спяваць песні, якія падбіраў. Пасля Сцяпана Копы з намі працаваў Анатоль Куніцкі, спадар Фёдар (не памятаю ўжо яго прозвішча) і коратка працаваў з намі Мікола Мяжэнны. Усе яны прыязджалі да нас ажно з Беларусі, а цяпер, ужо звыш дзесяці гадоў, займаецца з намі Пётр Скепка з Гайнаўкі, які ўмее працаваць з людзьмі. Выконваем мы беларускія творы, а з нашых песень спяваем пападляшску і па-ліцвінску, як нашую мову ў нас называюць. Выконваем творы апрацаваныя пад акампанемент акардэона, на якім іграе сам Пётр, а бывала таксама, што спявалі мы песні пад акампанемент капэлы з Дубін, з якой таксама быў займаўся Пётр Скепка, — сказала кіраўнік гурту Зіна Пацэвіч.

Пасля Вольгі Закройшчык кіраўніком калектыву стала Валянціна Панькоўская. Пазней падмянілі яе Анна Карэтка і Вольга Савіцкая, якая кіравала дзейнасцю калектыву перад спадарыняй Зінай.

— Мне было 62 гады, калі муж памёр і я моцна перажывала гэтае гора. Калі мінула жалоба, Оля Савіцкая запрапанавала мне ўступіць у калектыў і каб забыць пра гора, я рашылася сустракацца з жанчынамі і ўжо 20 гадоў спяваю з «Нараўчанкамі». Калі б не калектыў, мне адной складана было б дома сядзець, бо дзеці раз'ехаліся, а ў адзіноцтве розныя сумныя думкі ў галаву лезуць. Зараз мне ўжо 81 год жыцця мінуў і хачу адысці з калектыву, бо ў такім узросце ногі ўжо баляць і складана выязджаць на канцэрты. Аднак наш кіраўнік Пётр Скепка не адпускае мяне і просіць, каб яшчэ асталася і падтрымала гурт, — гаварыла Люба Трусевіч, родам з хутара з-пад Тарнополя. — Калі я была маладой, любіла спяваць і з сёстрамі мы прыгожа спявалі, ажно рэха ішло па рацэ і лузе, а хлопцы захапляліся нашым спевам. Пасля паявілася магчымасць жыць са спевам разам з калектывам «Нараўчанкі», і калі я спяваю, то станаўлюся больш радаснай, бо цяпер людзі ў асноўным сядзяць дома перад тэлевізарамі і сумнае такое жыццё.

Зараз калектыў з Нараўкі выступае з апрацаваным беларускім фальклорам і з творамі на літаратурнай беларускай мове. У рэпертуары ёсць таксама песні на польскай мове. Спяваюць у «Нараўчанках» Зіна Пацэвіч, Люба Трусевіч, Анна Карэтка, Галена Апольская, Тамара Адамовіч, Лідзія Вярбіцкая, Яўгенія Вярбіцкая, Вольга Сачко, Вольга Раманчук, Марыя Раманчук і надалей належыць да калектыву Вольга Савіцкая, хаця апошнім часам не выступала з гуртом, бо многа часу прабывала па-за домам.

— Калі ў нашым калектыве пачалі спяваць старэйшыя жанчыны, частка малодшых па сямейных і іншых прычынах адышла, а зараз і тыя малодшыя сталі ўжо старэйшымі жанчынамі. Аднак надалей хочацца яшчэ выступаць з калектывам і калі нешта перашкодзіць і не паеду на выступы, то пасля вельмі шкадую, што не магла спяваць разам з нашымі жанчынамі. Побач нашых беларускіх песень у нашым рэпертуары ёсць таксама польскія творы, з якімі мы выступаем перад турыстамі і ў час канцэртаў далей у Польшчы, — расказвала спадарыня Пацэвіч. — У час фестывалю «Беларуская песня» выступаем мы як цэлы калектыў, пад акампанемент Пятра Скепкі, я сама сола спяваю, а асобна выступаюць таксама Пётр Скепка і Анна Карэтка.

«Нараўчанкі» выступалі таксама з вясельнымі і хрысціннымі абрадамі перад турыстамі ў Будах і ў белавежскіх гатэлях. У час замежных падарожжаў найчасцей наведвалі Беларусь, але былі таксама ў Літве і на Украіне.

— Зімой мы з калядкамі выступаем у Гайнаўскім доме культуры і ў БГКТ у Беластоку, — паінфармавалі жанчыны з «Нараўчанак». — З велікапоснымі песнямі мы выступалі таксама на каталіцкіх мерапрыемствах, а вясельны абрад мы паказвалі з *караваем* і спевамі. Захапляліся турысты нашымі макаткамі, ручнікамі і сурвэткамі, якімі мы карысталіся ў час прэзентацыі абрадаў.

— Я каравай на вясельны абрад сама пякла і не ведаю, як будзе з ім, калі ўжо я адыду з калектыву, — з сумам прызналася Люба Трусевіч, бо хацелася б ёй яшчэ даўжэй паспяваць з сяброўкамі ў калектыве. — Многа па свеце мы паездзілі з калектывам і ўспаміны ад выездаў астануцца на ўсё жыццё.

«Нараўчанкі» выступалі ў Польшчы таксама па-за нашым рэгіёнам — спявалі ў Вісле на поўдні Польшчы і ў Гданьску. У нас спявалі ў час «Сяброўскай бяседы» ў Гарадку і «Ператоча» ў Белавежы. Зіна Пацэвіч паінфармавала, што нараўчанскі войт Мікалай Павільч прафінансаваў куплю новых убораў для калектыву, якія былі заказаны ў Мінску.

— Мне новыя касцюмы вельмі падабаюцца, а жанчыны з іншых калектываў кажуць, што наша новая вопратка падобная да шляхецкай. Апякуецца намі дырэктар Гміннага асяродка культуры Анна Стульгіс, а войт дае нам транспарт. Гмінная ўправа дае нам узнагароды, але самая дарагая ўзнагарода для нас, калі людзі хочуць нас слухаць і мы рады, калі наш спеў дае публіцы задавальненне. Калі здароўе будзе, то яшчэ крыху паспяваем. Выступаючы з калектывам мы ж адпачываем у супольнай грамадзе, — заявіла спадарыня Зіна, а калі пытаюся ў яе, ці ёсць надзея, што малодшыя падменяць старэйшых, каб «Нараўчанкам» у далейшай будучыні не пагражала спыненне дзейнасці, чую, што складана намовіць маладзейшых спяваць у калектыве.

— Мікола Мяжэнны неяк умее заахвоціць маладых, каб спявалі ў «Цаглінках», але наогул складана зараз пераканаць маладых займацца ў фальклорных калектывах. У нас таксама нялёгка намовіць малодшых, каб прыходзілі на рэпетыцыі і пачыналі супольна спяваць. Аднак у Нараўцы Пётр Скепка заснаваў асобны калектыў, у якім вучацца спяваць пяць дзяўчатак і двух хлопцаў. Можа гэты гурт назавем «Нараўчаначкі» і ў будучыні яны будуць выступаць з нашымі песнямі, — лічаць Зіна Пацэвіч і Люба Трусевіч.

## Каму паскардзіцца?

Сыпнуў першы снег і з'явіліся першыя праблемы. Кузаўская вуліца ад Чаромхі-Станцыі па сядзібу Карпінскіх, што мяжуе з чыгуначным віядукам Чаромха — Гайнаўка, лічыцца павятовай дарогай. І тут пытанне: хто павінен расчышчаць вясковую вуліцу ад снегу? Раней гэтым займалася гміна. У мінулым годзе абавязак расчысткі „сваіх" дарог на тэрыторыі Чаромхаўскай гміны пераняло Павятовае прадпрыемства публічных дарог. У Кузаве, напрыклад, практыкуецца дзіўная звычка. Канец вёскі ад царквы па віядук работнікі дарожнай службы мінаюць. Экскаватары шпараць проста з Чаромхі ў Рэпчычы і далей у Кляшчэлі. Так было сёлета з першым снегам. У суботу, 27 кастрычніка, каля дзевятай вечара, праз Кузаву праехаў экскаватар і расчысціў са снежнага балота вуліцу да царквы і падаўся ў Рэпчычы. Далейшую частку вуліцы пакрывала снежнае балота. Пасля ўсё замерзла. Калі я праязджаў у панядзелак да сябры, што жыве ў другім канцы вёскі, дык веласіпедам цяжка было праехаць. Каструбатыя каляіны з-пад аўтамабіляў пагражалі проста выпадкам. І каму пасласць скаргу, Усявышняму? Праблема спрадвечная, вядомая гміннаму самаўраду. Ды і солтыс, хоць жыве пры канцы вёскі, мала цікавіцца праблемай. А што будзе далей? Сіноптыкі прадвяшчаюць працяглую і снежную зіму. Дык мой заклік: не пакідайце, паважаныя дарожныя чыноўнікі, жыхароў Кузавы (з другога боку вёскі) самім сабе. Усё ж яны таксама з'яўляюцца падаткаплацельшчыкамі і належыцца ім нейкая пашана.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Наш пісьманосец

Неўзабаве будзе 33 гады, як пісьманосцам у нас працуе Віктар Селеванюк. Калі ён працаваў на пошце ў Трасцянцы, было там два раёны і двух пісьманосцаў. Віктар абслугоўваў палову вёскі Трасцянкі, Ставок, Пухлы, Сацы і Бялкі. Другую палову Трасцянкі, Анцуты, Сакі, Іванкі, Рагазы, Агароднікі і Гозну, што ў Міхалоўскай гміне, абслугоўваў Валодзя Нікалаюк.

Тады ў пісьманосцаў былі цяжкія сумкі, бо было многа падпісчыкаў газет. Калі пачалі ліквідаваць меншыя паштовыя аддзяленні, то і ў Трасцянцы закрылі пошту і ўсё перанеслі ў гмінную Нарву. Туды пайшоў працаваць і Віктар Селеванюк, але там не мог абыходзіцца без самахода, бо на поштах парабілі крамы і пісьманосцам трэба было заняцца продажам тавару.

Віктар з'яўляецца пільным і сумленным працаўніком, хаця яму прыдзялілі для абслугоўвання ранейшыя два паштовыя раёны, дзе працавалі два пісьманосцы. Такіх лістаношаў, як Віктар Селеванюк, трэба ўсім шанаваць за іх цяжкую працу. Ён возьме ўсе квітанцыі, як трэба аплаціць ды прынясе газету або пісьмо. А калі папросіш нейкі тавар, якога акурат у яго няма, то ён прывязе яго пазней.

Я жадаю Віктару добрага здароўя, доўгіх гадоў шчаслівага жыцця.

Дзякуй Табе, Віця, за сумленную працу!

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

# Барды ў Гарадку

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН




„Рэлікт" — герой вечара

**Штораз большая колькасць жыхароў нашага ваяводства мае магчымасць раз у год сустрэцца з беларускай паэзіяй у музычным выданні. Старыя і новыя гіты „Бардаўскай восені" паступова ўваходзяць на вясковыя панадворкі. На фестывальнай карце апынуўся, між іншым, невялікі Гарадок. Тут 26 кастрычніка ў шыкарнай, хаця напалову пустой, зале Гміннага цэнтра культуры выступіла мясцовая моладзь і беларускі гурт „Рэлікт".**

Аляксандр Дземідзенка, Вова Казлоў, Ілья Рабцеў і Віталь Макшун не ўпершыню выступілі перад гарадоцкай публікай. Яны тут больш вядомыя як выканаўцы рок-музыкі на летнім „Басовішчы". На гэты раз музыканты запрэзентавалі творы ў меланхалічнай, восеньскай стылістыцы, большасць якіх паходзіла з іх новага альбома „Рэкі прабілі лёд". Іх канцэрт быў доказам, што журы фестывалю „Бардаўская восень — 2009" не памылілася, прызначаючы ім статус пераможцаў. Глыбокія тэксты, чароўны голас Вовы Казлова і высокі ўзровень інструментальнай інтэрпрэтацыі не пакінулі слухачоў абыякавымі. Большасць нешматлікіх прысутных не дала артыстам спакойна зысці са сцэны, выстраіўшыся ў чарзе за аўтографамі на толькі што закуплены імі новай кружэлцы калектыву.

Што было галоўным штуршком, натхненнем для запісання альбома, „Ніва" рашыла папытаць саміх яго стваральнікаў:

— Мы нарадзіліся на Палессі, — кажа перкусіст гурту Аляксандр Дземідзенка. — Супольна граць пачалі ў 2005 годзе ў Светлагорску, потым у Гомелі, цяпер лёс кінуў нас у сталіцу. Спачатку спявалі мы толькі на рускай мове, але з цягам часу, з узростам адбылося ўсведамленне сябе беларусамі.

— Людзі, якія нарадзіліся на Палессі, адрозніваюцца эмацыянальна ад астатніх беларусаў нейкай мястычнасцю, атмасфернасцю, — далучаецца да размовы Вова Казлоў. — На гэта ўплывае, між іншым, спецыфічная, палеская прырода, якая ракою разліваецца ў нашых кампазіцыях. Наш апошні альбом, створаны і запісаны ў Гомелі, з'яўляецца кніжкай асабістых вобразаў жыцця. Яны паўсталі ў выніку назірання людзей, рэчаіснасці і падарожжа ў мінулае. Там адлюстраваны нашыя добрыя і складаныя жыццёвыя досведы. У гэтых песнях паяўляецца таксама ўток жанчыны. Ён прысутнічае ў нас на нейкім падсвядомым узроўні, таму што жанчына гэта вобраз маткі-зямлі, гэта ўвогуле ўсё, што прадстаўляе сабою зямлю. Гэтая тэматыка займае галоўнае месца ў нашым беларускім фальклоры, традыцыйнай спадчыне, якой таксама мы натхняемся. З павагай ставімся да радзімых, спрадвечных каштоўнасцей, што выяўляецца таксама ў названні нашага гурту. Ёсць шмат выяўленняў на зямлі, шмат розных рэчаў, нейкія прыгоды, новыя досведы і ўсё гэта пройдзе з цягам часу, а рэлікт застанецца з намі назаўжды. Рэлікт гэта тое, што перажывае нас. Які рэлікт застанецца пасля нас, раскажуць нашы нашчадкі.

Пасля непаўторнага выступлення беларускіх музыкантаў гарадоцкую сцэну занялі маладыя дзяўчаты, удзельніцы калектываў мясцовага дома культуры. На жаль, не праспявалі яны ні адной песні на беларускай мове. Пасля выступлення маладых спявачак адбылася забава пры шлягерах дыска-пола. Быццам пры дапамозе чароўнай палачкі напаўпустая канцэртная зала запоўнілася сапраўдным натоўпам гарадчан. Толькі тады можна было заўважыць, што ў Гарадку ўсё ж такі пражывае даволі шмат моладзі. Што з'яўляецца прычынай такога даволі сумнага стану рэчаў, „Ніва" рашыла папытацца ў самага дырэктара Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку Юркі Хмялеўскага:

— Фестываль „Бардаўская восень" заўсёды быў для мяне вельмі блізкім. Калі я стаў тут дырэктарам, першай маёй ініцыятывай было запрашэнне герояў гэтага фестывалю на канцэрты ў Гарадок. Першае такое мерапрыемства мы правялі ў 2009 годзе, у час сур'ёзнага рамонту нашага дома культуры. На камерную сустрэчу з Лявонам Вольскім мы сабраліся ў мясцовай каварні. У наступных гадах сюды заглядалі, між іншым, такія зоркі бардаўскай сцэны як гурт „Верасень" ці Зміцер Вайцюшкевіч. Маем шчасце, бо заўсёды траплялiся нам самыя лепшыя артысты. Я не ведаў як мясцовыя ўспрымуць гэты фестываль. У малых асяроддзях, як наш Гарадок, такія імпрэзы не збіраюць натоўпаў. Гэта не народны фэст, а глыбейшая культура слова і гуку. Пакуль бардаўскія канцэрты добра ўспрымае даволі вузкае кола сталых прыхільнікаў. Мы стараемся рабіць усё, каб прыцягнуць да іх перш за ўсё маладога слухача. Што і раз мяняем формулу мерапрыемства. Такім чынам у мінулым годзе наш госць Зміцер Вайцюшкевіч правёў музычныя майстар-класы з мясцовай моладдзю. Сёлета мы рашылі запрасіць іх да актыўнага ўдзелу ў канцэрце. Маладыя выканаўцы, якіх сёння мы тут бачылі, маюць у рэпертуары толькі бяседныя беларускія песні. Яны проста не паспелі падрыхтавіцца з беларускай паэзіяй. Калі б у нас не выступаў сёння толькі беларускі гурт, многія не прыйшлі б. Па рэакцыі публікі можна было заўважыць, што ўсё-такі выступленне гасцей ім спадабалася. Думаю, на другі год яны напэўна сюды вернуцца не толькі дзеля дыскатэкі ці выступаў сяброўак. Мы тут стараемся прывіваць беларускасць у далікатны спосаб. Вядома, гэта даволі складаная справа. Народная творчасць у нас, на шчасце, у добрай форме, не мусім гэтым надта перайманца. Горш выглядае справа з культурай у іншым вымярэнні. Тут нам трэба засяродзіцца і прыкласці намаганні, каб знайшла яна сваё сталае месца. Не хапае вышэйшай культуры не толькі ў Гарадку, але і ў іншых культурных установах нашага ваяводства. Усё ж такі хочацца, каб і ў гэты дом культуры заходзілі маладыя людзі, якія годна маглі б прыняць удзел у чарговым выпуску „Бардаўскай восені".

Дзяўчаты з гарадоцкай „Вэны"






Злева: Раман Казлоўскі, Марцін Рэмбач, Роберт Тышкевіч, Анджэй Паўлоўскі

# Беларусь у самаізаляцыі

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**Дзве дэбаты, звязаныя з гаспадарчай сітуацыяй на польска-беларускім памежжы ды між іншым эканамічнымі адносінамі з Беларуссю і шырэй з Усходам Еўропы, праводзіліся ў апошні час у Беластоку. Шырэй аб першай з іх, прысвечанай развіццю Усходняй сцяны, пісалі мы тыдзень таму. Другая, у рамках праекта „Эканамічнае супрацоўніцтва Польшча-Беларусь", асабліва з улікам Падляшскага ваяводства і Гродзенскай ды Брэсцкай абласцей, адбылася ў Маршалкоўскай управе Падляшскага ваяводства па даручэнні Міністэрства замежных спраў.**

Яшчэ ў час II Канферэнцыі „Сапраўдная Еўропа рэгіёнаў і развіццё Усходняй Польшчы" размаўлялі мы з адным з найвыдатных польскіх эканамістаў праф. Вітальдам Арлоўскім. Спыталіся мы ў яго пра найважнейшыя праблемы ў супрацоўніцтве Польшчы з усходнімі суседзямі, а перш за ўсё з Беларуссю:

— Мяжа, якая раздзяляе два народы, дзве дзяржавы, заўсёды з'яўляецца перашкодай у эканамічным развіцці. Калі маецца суседства, якое дзейнічае іначай, з іншымі кодэксамі, яно стварае ў сваю чаргу адмысловы шанц развіцця. Калі з аднаго боку мяжы лягчэй рабіць адно, а з дугога іншае — гэта заахвочвае да пошукаў аптымалізацыі таго, што ў эканоміцы называецца падзелам працы. Аднак каб так наступіла, тая мяжа павінна быць хаця б напаўшчыльнай. Не кажу, што кожны павінен яе перасякаць адвольна, але не павінна яна тармазіць трансгранічнай актыўнасці. Выкарыстанне адрозненняў паміж краінамі пры трансгранічным супрацоўніцтве заключаецца ў тым, што мяжа не можа быць жалезнай заслонай, і павінна дазваляць на гаспадарчую актыўнасць. Другой праблемай з'яўляецца тое, наколькі ўзгодненыя паміж сабою гаспадарчыя сістэмы і юрыдычныя рамкі па абодвух баках мяжы. Незалежна ад таго, якую ацэнку даем палітычнай сітуацыі ў Беларусі ці Украіне, усё ж у абедзвюх гэтых дзяржавах маем дачыненне з механізмамі рыначнай эканомікі, у якой генеральна прымаецца, што эканамічная актыўнасць людзей з'яўляецца тым, чаму ў прынцыпе трэба даць падтрымку. Аднак самі механізмы дзеяння рыначных эканомік у Беларусі і ў Польшчы вельмі адрозныя. Вядзе гэта, напрыклад, да вялікіх адрозненняў у цэнах на тавары, у тым ліку высокападакцызныя. Гэта заахвочвае да дзеянняў, на якіх ні адной з дзяржаў не залежыць, да пакупак там, дзе не плаціцца падаткаў, ці кантрабанды. Баюся, што найбольшым заахвочваннем да супрацоўніцтва паміж Польшчай і Беларуссю можа быць магчымасць абыходжання закону.

Паставілі мы пытанне, ці гаспадарка з'яўляецца добрай прыладай для вымагання дэмакратычных змен у іншых краінах:

— Гэта заўжды дылема. Добрага адказу ў такіх сітуацыях ніколі няма. Накладваючы эмбарга, асуджаем грамадства яшчэ больш на недастатак, бо, як кажа старая прымаўка: кожны ўрад сам неяк пракорміцца. Раней ці пазней эфекты санкцый кладуцца на тых, якім хочацца дапамагчы, а не на ўладах. Я досыць скептычны, калі гаворка пра прымяненне санкцый. Таму што не ёсць так, што грамадскі націск павялічваецца з падаючым узроўнем жыцця, а папраўдзе бывае наадварот. Калі людзі адчуваюць сябе больш прадпрымальнымі, багацеюць, вось тады пачынаюць патрабаваць дэмакратыі і свабод. Трэба пазбягаць санкцый, якія кіруючым лёгка перакінуць на грамадства.

Два дні пасля канферэнцыі, прысвечанай распрацоўцы м.інш. супольнай стратэгіі развіцця Усходняй Польшчы (19 кастрычніка), таварыства „Амікус" ды Падляшскі цэнтр еўрапейскай інфармацыі разам з Падляшскай маршалкоўскай упраўай сарганізавалі дэбату датычную эканамічнага супрацоўніцтва паміж Польшчай і Беларуссю. Прынялі ў ёй удзел два беластоцкія прадпрымальнікі Раман Казлоўскі, шэф фірмы «PRO 100» (вялікафарматны друк) і Анджэй Паўлоўскі, шэф Падляшскага цэнтра паперы, а таксама Марцін Рэмбач, старшыня Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь ды падляшскі дэпутат Роберт Тышкевіч, віцэ-старшыня сеймавай камісіі замежных спраў, а заадно старшыня парламенцкай групы па справах Беларусі. Запрошаныя на яе былі Вітальд Карчэўскі, старшыня Прамыслова-гандлёвай палаты ў Беластоку ды дырэктар спецыяльнай эканамічнай зоны „Гроднаінвест". Абодва яны ў апошнюю хвіліну адмовіліся ад удзелу. Раней, у час канферэнцыі „Сапраўдная Еўропа..." мы спыталіся ў старшыні Карчэўскага, ці быў бы ён за тым, каб Польшча аднабакова ўвяла малы памежны рух з Беларуссю (як пісалі мы ў папярэднім адрэзку, згодна са словамі прэс-сакратара МЗС у Мінску, няма шанцаў на тое, каб Беларусь са свайго боку завяршыла адпаведныя працэдуры патрэбныя для ўступлення ў сілу дамовы). Такія прапановы гучаць ад апазіцыйных беларускіх палітыкаў і некаторых прадпрымальнікаў. Вітальд Карчэўскі:

— Я за тое, калі б гэта мела паўплываць на развіццё памежнага супрацоўніцтва і прадпрыемстваў.

Пры нагодзе, быў супраць уводу эмбарга Еўрасаюзам на тыя з беларускіх фірм, якія непасрэдна фінансуюць рэжым Лукашэнкі. У час дэбаты дэпутат Тышкевіч звярнуў увагу на тое, што Беларусь з шасці ўсходніх краін Усходняга партнёрства (Арменія, Азербайджан, Грузія, Малдова, Украіна, Беларусь) знаходзіцца ў найгоршай негацыўныйай сітуацыі, калі гаворка пра набліжэнне да ЕС.

— Яе зацікаўленне Усходнім партнёрствам практычна скончылася. Улады Беларусі ў цяперашні час не звязваюць з ЕС ніякіх спадзяванняў.

Спасляўся на прыклад канцэрна IKEA, які адмовіўся ад пабудовы завода перапрацоўкі драўніны на Гродзеншчыне па прычыне недахопу гарантыі бяспекі для сваёй інвестыцыі.

Раман Казлоўскі:

— Польшча ў Беларусі павысілася да рангу першага вонкавага ворага. Беларусь зацікаўлена праектамі такімі, якія спалучаюцца з уплывам у Беларусь еўрасаюзных грошай.

Анджэй Паўлоўскі:

— Польшча ў адносінах да Беларусі прабавала так цярплівага дыялогу, як і рэпрэсій. Ані адно, ані другое не давяло да значнага пералому.

Абодва прадпрымальнікі звярнулі ўвагу на нядаўнія турботы з блакаваннем аплат, да якіх даходзіла ў час супрацоўніцтва з беларускімі дзяржаўнымі фірмамі.

— Валютны рынак у Беларусі страшэнна слабы. У прынцыпе дайшоў да дна. Год немагчыма было купіць у беларускіх банках долар ці еўра. Ад году гэта крыху мяняецца. Цяпер дзяржаўныя фірмы плацяць. Са спазненнем, але ж плацяць. Гэта не ёсць дзяржава свабоднага рынку, а надалей СССР.

Дэпутат Тышкевіч паінфармаваў, што ў мінулым годзе 39 працэнтаў беларускага экспарту прыпадала на ЕС, а на 106 працэнтаў увогуле павысіўся экспарт, у тым ліку перапрацаваных нафтапрадуктаў (асноўны прадукт — з Расіі), перапрацоўваных двума беларускімі нафтаперапрацоўчымі заводамі:

— Беларускія ўлады злоўжываюць нафтавымі перавагамі з боку Расіі.

Пры нагодзе звярнуў увагу:

— Беларускі бок абмяжоўвае лік польскіх консулаў, каб абмежаваць лік выдаваных віз польскімі консульскімі ўстановамі.

Звязана гэта, як заўважыў, з фактам абмежавання ўцечкі з Беларусі цвёрдай валюты.

Анджэй Паўлоўскі:

— Цяпер патрэбы беларускага рынку нагадваюць пачаткі дзевяностых гадоў у Польшчы.

Пасля дадаў:

— Мне мяшае тое, што аўтамашыны, асабліва аўтафуры, доўга трымаюцца на мяжы не толькі беларускімі службамі. Палякі ўмеюць за тры-чатыры гадзіны не адправіць ні аднай аўтамашыны. Калі вяртаюся з Беларусі, не магу дапхацца да еўрасаюзнай паласы, стаючы там з г.зв. чаўнакамі. Праходнасць мяжы на нашым баку павінна дапамагаць бізнесу. Хопіць, як толькі што благое адбываецца ў палітычным плане, гэта зараз адбіваецца на памежным руху.

На канец заўважыў:

— Калі беларусы маюць альтэрнатыву, дык адносна польскіх прадпрымальнікаў прымаюць адмоўнае заключэнне. Так адбываецца пры таргах. Я не інвеставаў бы ў Беларусі ні залатоўкі, бо не мела б гэта ніякага юрыдычнага забеспячэння, калі б маёй фірме нешта здарылася. Лепш здзелкі страхаваць адсюль.

Дэпутат Тышкевіч:

— Беларусь як транзітная дзяржава магла б выкарыстаць прагрэсіўны шанц, ды мусіць рэфармавацца. Свет не стварыў капіталізму без дэмакратыі. Беларусь мусіць развівацца так, як хочуць гэтага яе грамадзяне. Гэта незалежная дзяржава і мусім гэта ўшанаваць. Я асцерагаў бы перад патэрналізмам. Беларусы не маюць шчасця, выбралі кіраўніка, які з гадамі стаў сатрапам. Можна іх толькі заахвочваць, але дарогу яны выбраць мусяць самі.

Дыскутанты размаўлялі таксама м.інш. аб свабодных эканамічных зонах у Беларусі (ёсць іх шэсць), у якіх абавязваюць сур'ёзныя льготы для інвестараў. Удзел польскіх фірм у іх мінімальны, у тым ліку падляшскіх, напр. у гродзенскай зоне (тут толькі адна фірма). У гэтым пункце Марцін Рэмбач сказаў, падводзячы высновы з усёй дэбаты:

— Цяпер відаць, што Аляксандр Лукашэнка вядзе паслядоўную палітыку самаізаляцыі Беларусі і абмяжоўвання кантактаў з ЕС, а эканамічныя кантакты з'яўляюцца выніковай палітычнай сітуацыі.



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Школьнае свята


Нараўчанскія гімназісты

Дзень настаўніка ў школе ў Нараўцы адзначалі 12 кастрычніка. У гэты дзень усе вучні, святочна апранутыя, хадзілі з кветкамі або з прыдуманымі сабой „падарункамі”, якія дарылі сваім педагогам. Падарункі ў форме пакета цукеркаў для настаўніка, па-мастацку запакаваныя, былі найцікавейшымі для вучняў, бо потым усе разам маглі гэты падарунак на ўроку з'есці. Не менш цікавымі былі, замест кветак, кубкі з адмысловымі надпісамі, напр. „Супербэльфер”. Няхай папіваюць з іх ваду, або гарбату, калі ім засохне ў роце.

У пятніцу ўсе былі надзвычай вясёлыя, бо калі нават штосьці раней было не так, у гэты дзень ніхто аб гэтым не памятаў.

Пад канец урокаў адбылася школьная ўрачыстасць, на якой былі прысутныя ўсе настаўнікі, спадарыня дырэктар, запрошаныя госці, якія супрацоўнічаюць са школай, і пенсіянеры, якія раней вучылі ў нашай школе.

Спектакль быў класны! Кожны мог пасмяяцца, нават асобы моцна патрабавальныя. Былі песні, смешныя сцэнкі, танцы і паказ моды — прапанова для настаўнікаў паасобных прадметаў.

Пасля заканчэння ўрачыстасці былі пажаданні і кветкі ад запрошаных гасцей, а таксама мілыя словы для вучняў і ўсіх працаўнікоў школы.

У гэты дзень настаўнікі дасталі шмат кветак, з-за якіх не было іх відаць, а гэта абазначае толькі адно, што мы вельмі іх любім.

**Анна БЯЛЯЎСКАЯ**
I клас Гімназіі ў Нараўцы

# Родная мова

Здарылася так, што людзі аднаго краю палічылі, быццам мова, якою гаварылі іх бацькі, дзяды і прадзеды, непрыгожая. Нават грубая і нягеглая.

— І чаму,— абураліся адны,— у нас «р» толькі цвёрдае, а ў суседзяў ёсць і мяккае?

— Так, так,— згаджаліся другія,— у суседзяў «г» гучнае, а ў нас — амаль як «х»...

— А чаго варта наша дзеканне і цеканне! — дадавалі трэція.— Ці «у» кароткае...

— Што ж рабіць?

Думалі, думалі і надумалі ўрэшце пазычыць мову ў суседзяў. Яна, маўляў, і багацейшая, і прыгажэйшая. Хоць і вельмі блізкая да тутэйшай. І пазычылі, і ніякіх быццам складанасцей. Многія ж словы аднолькава ў абедзвюх мовах гучалі. Такія важныя і патрэбныя, напрыклад, як «хлеб» і «соль», «вайна» і «мір», «дом», «поле», «лес»...

Але былі і несупадзенні, праз якія здараліся розныя недарэчнасці. Часам смешныя, а часам і не надта смешныя.

Так, хацеў аднойчы добры чалавек нейкую паслугу зрабіць свайму даўняму сябру. Ды памыліўся. Замест паслугі непрыемнасць атрымалася. Сябар дужа пакрыўдзіўся.

А чалавек той лічыўся вельмі адукаваным. Сваёй мовай зусім гаварыць развучыўся. І пачаў апраўдвацца на мове суседзяў.

— У мяне,— кажа,— былі самые благие намерения... Хаця словы ў гэтым сказе на абедзвюх мовах гучалі амаль аднолькава, адно з іх мяняла ўвесь сэнс сказанага. «Благие» ў мове суседзяў значыла — добрыя, а «благія» ў мове тутэйшай — дрэнныя, кепскія, паганыя. Усё наадварот!

І столькі падобных выпадкаў было, што і не злічыць.

А тут яшчэ і другая бяда. Пачалі блытаць тутэйшыя людзі, дзе якое «р» вымаўляецца. Дзе трэба мяккае, цвёрдае праскочыць. Дзе трэба цвёрдае, мяккае вылузнецца. Як скажа хто «брукі» замест «брюки», «трапка» замест «тряпка», так суседзі і заходзіліся ад смеху.

Ды і дзекання і цекання пазбавіцца не ўдалося. Толькі ў суседскай мове неўласцівае ёй вымаўленне гучала сапраўды дзіўнавата. А можа, і дзікавата. Не тое, што ў сваёй...

І зноў задумаліся людзі. Што рабіць?

Пайшлі да самага старога і разумнага ў той краіне чалавека. Спыталіся. А самы разумны чалавек і кажа:

— Кожны народ сваю мову мае. Кожнаму народу яна — родная. І не шанаваць, не любіць яе — тое самае, што выракацца маці ды бацькі, той зямлі, дзе мы нарадзіліся, якую родным краем завём. Адно магу вам параіць: шануйце мову родную і суседскую паважайце...

Паслухаліся людзі самага старога ды самага разумнага чалавека. І неўзабаве зразумелі, што ні адной на свеце мовай не выкажаш так дакладна свае думкі і пачуцці, як роднай. І яшчэ ўпэўніліся, што дарма ганьбілі яе, і багатая яна, і мілагучная. Не горшая за суседскую і за ўсе іншыя мовы.

Вось і вырашылі тутэйшыя людзі змалку дзяцей абедзвюм мовам вучыць — сваёй і суседскай. А хто яшчэ і трэцюю, і чацвёртую ведаць пажадае — калі ласка! Вучы. Старайся. Ад гэтага толькі карысць. І сабе. І людзям. І роднаму краю. Так вось...

*Слова за словам –*
*і казцы канец,*
*хто зразумеў яе –*
*той маладзец!*

**А. Вольскі**

# Конкурс пра восень (34)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам восені. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Якое народнае свята спраўляем у месяцы лістападзе?**
а) Запусты,
б) Камаедзіца,
в) Ірванне пер'я.

**2. Да калі можна дасылаць свае вершы і апавяданні на конкурс арганізаваны „Нівай”?**
а) да 1 снежня 2012 г.,
б) да 25 лістапада 2012 г.,
в) да канца 2012 г.

**3. Які беларускі этна-гурт адзначае сваё дваццацігоддзе?**
а) „Тройца”,
б) „Кудзьмень”,
в) „Палац”.

Адказы на конкурс дасылайце да 30 лістапада 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі”).

Адказ на конкурс № 31: 1. Лемантар (а); 2. кніга (в); 3. у Падляшскай оперы і філармоніі — Еўрапейскім цэнтры мастацтва (в).

Узнагароды — **навейшы кампакт-дыск Андрэя Мельнікава „Як з-за высыпы па фарвацер...”** выйгралі **Аня Бяляўская, Наталля Васько, Лукаш Марчук** з Нараўкі. Віншуем!

**ЗОРКА**

## Беларускія прыказкі

Сёння зробіш — заўтра як знойдзеш.

## СКОРАГАВОРКА

Прытупіў пілу Пілiп — Пілаваў паленне з ліп.

Фота Ганны Кандрацюк



Вучні з беластоцкай „чацвёркі" з настаўніцай Алінай Ваўранюк

# Музыка з кайфам

### Тры дарогі



Дваццаць гадоў гэта шмат часу, калі адным можа расхацецца, а другім пастаянна абнаўляецца ідэя. Дваццаць гадоў гэта важная лічба, бо пастаянна пашыраецца кола беларускіх гуртоў, якім спаўняецца дваццаць гадоў. Да іх апошнім часам далучыўся гурт «Палац» (на здымку). Гэта прыклад гурту, у якім асоба лідара вызначае безумоўна шляхі дзейнасці і з'яўляецца гарантыяй даўгавечнасці. Карыстаюся словам «даўгавечнасць», бо, калі заглыбіцца ў гэтае пытанне, то гэты адрэзак часу можа сённяшнім дэбютантам здацца перыядам амаль неверагодным для актыўнай музычнай творчасці. Часцей музыкі паяўляюцца і знікаюць. «Палац», побач такіх тузоў як, напрыклад, «Нейра Дзюбель», працуе ўжо дваццаць гадоў. Адсвяткаваў свой юбілей гучна і паспяхова. Публіка на сваім месцы, рэпертуар — як заўсёды — «палацовы», атракцыйны, пазітыўны. Было напэўна якасна, хаця не так ярка як мела быць. Тут уваходзім на другую дарогу. Дарогу, з якой нейкая сіла прымушае мастака зысці. Такі шлях выпаў на долю шматлікіх музыкаў гурту «Палац». Найчасцей свядома, часам у выніку розных жыццёвых умоў складаецца так, што трэба выбраць новы шлях і развітацца з сябрамі, з якімі дагэтуль ішло супрацоўніцтва. Такім чынам з «Палаца» зышоў, напрыклад, Зміцер Вайцюшкевіч, пра што магчыма мала хто сёння помніць.

З двух гуртоў зышоў таксама Віктар Сямашка. Дагэтуль яго прозвішча не паяўлялася ў «Музыцы з кайфам», але варта пра яго ўспомніць, бо якраз паказаўся яго сольны альбом „Malapanapalam". Прагай гэтага артыста была незалежная творчая праца, нягледзячы на далейшыя кантакты з музыкамі, з якімі раней працаваў. Віктар Сямашка вырашыў засяродзіцца на сваім мастацкім працэсе, які стаў сутнасцю яго жыцця. Музыку, якая, паводле яго слоў, наладжвае камунікацыю са светам і перш за ўсё з Богам, найлепш перадае эмоцыі, рэфлексіі і думкі, прэзентуе ў першым сваім альбоме.

Але ёсць і трэцяя творчая дарога. Працаваць, не разам, але з ахвотай і насуперак усяму! Гэтую дарогу выбраў гурт «Босае сонца». Зараз лідар гурту Алесь Зайцаў жыве і працуе ў Маскве, акардэаніст — у Празе, іншыя ў Беларусі. А выступілі ў Беластоку ў рамках «Бардаўскай восені»! І выступаюць яшчэ ў іншых месцах. Бо ім хочацца. І тут сутнасць справы.

i_basovka@o2.pl

# Чаму кот пасля яды мыецца

*(беларуская байка)*

Злавіў кот мыш. А мыш і давай у яго прасіцца, каб ён пусціў яе на волю. А кот не пускае. Тады мыш давай хітрыць. Яна і кажа кату: „Коцік, усе людзі перад ядой мыюцца. А ты сёння яшчэ не мыўся. Памыйся, а тады і з'ясі мяне".

Кот давай лапамі мыцца, а мыш хутка пад палок, і даганяй яе.

Пасля таго выпадку ўсе каты мыюцца пасля яды.



www.wp.pl

# Вершы Віктара Шведа

## Адам і Ева

Ідуць Адам і Ева<br>Праз маляўнічы Рай.<br>Слухаюць птушак спевы,<br>Звярыны розны лай.

— Ці мяне кахаеш,<br>Мой дарагі Адам?<br>— Ці ж іншы выбар маю,<br>Калі няма больш дам?

## Непаразуменне

Лекар пацыенту раіць:<br>— Трэба вам спакою,<br>Выконваць працу, якая<br>Не звязана з галавою.

— Дык немагчыма гэта.<br>— А можа вы паэтам?<br>— Ды не, я не рыфмую, —<br>Цырульнікам працую.

# Польска-беларуская крыжаванка № 46

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 41:

Белавежа, рэха, укол, на, сусвет, фестываль, манер, ара, рана, за, лёс, гонар. Брэнд, ха, фарс, сена, гусень, астра, Вы, Ева, камар, вітка, алень.

Узнагароды — CD Андрэя Мельнікава „Як з-за выспы па фарвацер…" — выйгралі **Марыюш Асташэўскі**, **Аляксандра Пэкаў**, **Патрыцыя Міхальчук** з Бельска-Падляшскага, **Мая Радзіванюк**, **Наталля Бірыцкая** з Нараўкі. Віншуем!



Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА



# Чыжоўскія пенсіянеры заснавалі свой калектыў

Новастораны ў Чыжоўскай гміне музычны калектыў пенсіянераў (справа акампаніятар Сяргей Аўксеціюк і музычны кіраўнік Ірэна Лукашук, а злева — Ірэна Раманюк, старшыня чыжоўскага кружка пенсіянераў)

Калі члены кружка Саюза пенсіянераў і інвалідаў у Чыжоўскай гміне ў пачатку года адзначалі «Масленіцу», узнікла ў іх ідэя заснаваць калектыў, які мог бы выступаць на спатканнях пенсіянераў і гмінных мерапрыемствах. Пасля з-за веснавых і летніх работ ды прыезду гарадскіх унукаў на канікулы рэпетыцыі прыйшлося адтэрмінаваць ажно на восень. Аднак пенсіянеры не здаліся і з верасня пачалі спатыкацца і супольна спяваць, каб пазней выступіць публічна і заспяваць свае песні ў час святкавання Міжнароднага дня пажылых людзей, які супаў з 10-годдзем дзейнасці іх гміннага пенсіянерскага кружка. Мерапрыемства адбылося 19 кастрычніка ў прыгожа адрамантаванай святліцы ў Чыжах, у прысутнасці гмінных улад на чале з войтам Юрыем Васілюком і іншых запрошаных гасцей.

Жанчыны з новазаснаванага калектыву пенсіянераў выступілі перад публікай дастойна і адважна. Пад акампанемент Сяргея Аўксеціюка, што падыгрываў на акардэоне, прыгожа заспявалі песні, якія памятаюць яшчэ з маладасці і песні на беларускай літаратурнай мове (між іншым, «Колькі ў небе зор», «Шумяць вербы»), а адну песню праспявалі па-польску. Касцяк калектыву састаўляюць жанчыны, якія належалі ўжо да беларускіх вакальных калектываў, выступалі ў конкурсах і на аглядах, здабывалі прызавыя месцы і маюць вопыт спяваць перад вялікай публікай. Ірэна Лукашук здабыла нават вышэйшую музычную адукацыю, была настаўніцай музыкі ў Агульнаадукацыйным ліцэі ў Гайнаўцы, арганізавала там і вяла музычны калектыў і таму пачала кіраваць калектывам у Чыжах. У будучыні будзе магла нават састаўляць гурту акампанемент на скрыпцы, на якой любіць іграць.

— Маем намер спяваць перш за ўсё песні, якія спяваліся па нашых вёсках. Аднак сёння заспяваем таксама песні на беларускай літаратурнай мове і польскі твор. Спяваць пад акампанемент Сяргея Аўксеціюка мы вучыліся толькі ў час адной рэпетыцыі і таму сёння хвалюемся як атрымаецца наш выступ. Калі надалей будзем супольна трэніравацца, можа падрыхтуем некалькі песень і заспяваем іх на фестывалі «Беларуская песня», — сказала яшчэ да выступу Ірэна Лукашук.

Адрамантаваўшы бацькаўскую хату ў Чыжах, тут спадарыня Ірэна пражывае (за выключэннем зімы). Разам з Валянцінай Пракапюк належыць да царкоўнага хору. Раней Ірэна Лукашук і Валянціна Пракапюк спявалі ў славутым калектыве «Чыжавяне» і з ім здабывалі вопыт выступаў на сцэне.

— Калі мы спявалі ў час гмінных спатканняў пенсіянераў, я пабачыла, што ў нашых жанчын прыгожыя галасы і запрапанавала стварыць калектыў. Спачатку сабралася нас 4 жанчыны, а пасля даходзілі іншыя і зараз мы заспяваем у складзе васьмі чалавек, — гаварыла Валянціна Пракапюк з Чыжоў.

Ніна Хворась належыць да калектыву «Збучанкі», з якім дабівалася шматлікіх поспехаў і запісвала кампактдыск, а зараз як член Саюза пенсіянераў рашылася выступаць і ў новастораным калектыве. Калектыў пенсіянераў падтрымалі таксама тры жанчыны з калектыву «Незабудкі» з Курашава — Ніна Грыгарук, Ірэна Несцярук, Яніна Грыгарук і Лена Пашкоўская з Кленік.

— Нам, пенсіянерам, спяваецца ў новым калектыве вельмі добра, а Ірэна Лукашук умее пакіраваць нашым спевам. Аднак мы не пакідаем выступаць як «Незабудкі» з Курашава. Маем намер спяваць у адным і другім калектывах, — заявіла Ніна Грыгарук, кіраўнік «Незабудак».

— Вельмі добра, што паўстаў новы музычны калектыў. Дзякуючы яму нашы пенсіянеры праяўляюць актыўнасць таксама і на ніве культуры. Мы, як гмінныя ўлады, па меры нашых магчымасцей успамагалі і будзем успамагаць усе грамадскія ініцыятывы ў нашай гміне, — сказаў войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк, які выступіў таксама перад сабранымі і пажадаў пенсіянерам удалага адпачынку з музыкай.

Да танцаў падыгрываў вядомы на Беласточчыне калектыў «Арт-Пронар» з Нарвы, які здаўна супрацоўнічае з раённым аддзяленнем Саюза пенсіянераў і інвалідаў у Гайнаўцы. Яго старшыня Мікола Чыквін прыбыў на мерапрыемства на аўтобусе, разам з вялікай колькасцю гайнаўскіх пенсіянераў. У Гайнаўскім павеце да Саюза пенсіянераў належыць каля 800 чалавек, з чаго прыблізна палова гэта жыхары Гайнаўкі. Перад сабранымі з віншаваннямі выступілі таксама старшыня Рады гміны ў Чыжах Крысцінія Гаўрылюк, дырэктар Гміннага асяродка культуры Юры Якімюк, а пенсіянераў і гасцей вітала старшыня гміннага кружка Саюза пенсіянераў у Чыжоўскай гміне Ірэна Раманюк. На мерапрыемства прыбылі таксама кіраўнік Асяродка сацыяльнай дапамогі ў Чыжах Яўгенія Кандрацюк і старшыня Рады Нарваўскай гміны Ева Урбановіч з запрошанымі пенсіянерамі суседняй гміны.

— Мы падтрымалі ініцыятыву заснаваць музычны калектыў, якая выйшла ад Валі Пракапюк. У час рэпетыцый вып'ем па чарцы і тады ёсць адвага, каб супольна спяваць. Раней выступіць на спатканні пенсіянераў мы запрашалі школьную моладзь, а цяпер маем намер самі развесяляць нашых сяброў, — гаварыла Ірэна Раманюк, жыхарка Збуча, якая ад пяці гадоў кіруе гмінным кружком Саюза пенсіянераў і інвалідаў, а нядаўна была перавыбрана старшынёю на чарговы тэрмін. Раней пенсіянеры з Чыжоўскай гміны належалі да раённага аддзялення Саюза пенсіянераў і інвалідаў у Гайнаўцы.

— Калі паўставаў кружок Саюза пенсіянераў у Чыжах, я яшчэ працавала. Аднак ведаю, што тады была агульнапавятовая ініцыятыва арганізаваць такія кружкі па гмінах. Кружок у Чыжоўскай гміне актыўна пачаў дзейнічаць прыблізна дзесяць гадоў таму. Першым старшынёю стаў у нас Якуб Шышкевіч з Чыжоў. Тады актыўнымі былі яшчэ, між іншым, Уладзімір Астапчук і Мікола Варанецкі з Чыжоў і Кацярына Давідзюк са Збуча. Гэтая ініцыятыва спадабалася мясцовым пенсіянерам, бо на спатканні не трэба было ўжо ездзіць ажно ў Гайнаўку. Калі сустрэчы ладзіліся на месцы, гэта прыцягвала больш людзей, — расказвала Ірэна Раманюк, якая перад адыходам на пенсію працавала ў гміннай управе ў Чыжах на пасадзе кіраўніка Асяродка сацыяльнай дапамогі. — У нашай гміне мы арганізуем для пенсіянераў перш за ўсё супольныя спатканні пры каве, гарбаце або і пры чарцы. Тады маем нагоду пагаварыць, пажартаваць і адпачыць ад штодзённасці. Ладзім таксама большыя сустрэчы са спевамі, музыкай і танцамі, бо ж людзі не выседзяць многа часу перад тэлевізарам, калі вялікую частку праграм састаўляюць рэкламы.

Пенсіянеры з Чыжоў і наваколля паспрабавалі арганізаваць супольныя экскурсіі, але не атрымалася з гэтым, бо не маглі яны сабраць адпаведнай колькасці людзей, каб можна было наняць аўтобус. Сталі тады далучацца да экскурсій, якія арганізавала раённая ўправа Саюза пенсіянераў і інвалідаў у Гайнаўцы. Ездзілі, напрыклад, у Крушыняны і знаёміліся там з татарскім турыстычным шляхам, наведалі Сямятычы, Драгічын і Мельнік, пяклі супольна бульбу, а штогод ладзілі выезды на Грабарку, каб там памаліцца. Зараз кружок у Чыжоўскай гміне налічвае 63 асобы, а ў пенсіянерскай арганізацыі найбольш людзей з Чыжоў, Кленік, Курашава і Збуча.

— Я дзейнічаю ў гмінным кружку пенсіянераў ад пачатку і калі Якуб Шышкевіч перастаў быць старшынёй, я стала кіраваць дзейнасцю кружка, а ад мяне пераняла гэтую работу Ірэна Раманюк. Мы супольна прыемна праводзілі час. Раней, разам з пенсіянерамі з Гайнаўкі і наваколля, ездзілі на экскурсіі ў Новы Сонч, Цехановец. Цікава паехаць і пабачыць, як іншыя людзі жывуць. Сябруем мы з кружком пенсіянераў з Нарвы. Ездзім мы да іх і запрашаем нарваўскіх пенсіянераў да нас. Спатыкаемся таксама з пенсіянерамі з Гайнаўкі. У час сустрэч гаворым пра нашыя жаночыя справы, між іншым абмяркоўваем кулінарныя пытанні. Зараз нашыя вёскі пусцеюць, а для старэйшых асоб цікава, каб супольна спаткацца, паспяваць і прыемна правесці час, — гаварыла Кацярына Давідзюк са Збуча.

Хаця ў Чыжоўскай гміне, так як і ў іншых гмінах, па вёсках жывуць перш за ўсё пенсіянеры, дбаюць яны пра выгляд сваіх хат і панадворкаў. Апошнім часам частка з іх перакрывае хаты каляровай бляхай, многія ўстаўляюць новыя вокны, а некаторыя ўцяпляюць дамы, калі ёсць надзея, што іх гарадскія дзеці могуць рашыцца на пастаяннае жыхарства ў родных хатах, перасяліўшыся сюды з кватэр у блоках. Чыжы вядомыя ў наваколлі размаляванымі на розныя колеры драўлянымі дамамі, а Койлы, напрыклад, славіліся размаляванымі на розныя колеры драўлянымі платамі і жалезнымі агароджамі. Хаця апошнім часама частка агароджаў страціла свой бляск, іншыя прыгожа аднаўляюцца. У Чыжоўскай гміне многа таксама прысядзібных агародчыкаў з прыгожымі кветкамі.

Побач выступу новастворанага калектыву, гасцявання і танцаў, сустрэча ў святліцы была добрай нагодай для размоў аб жыцці пенсіянераў.

— Нашы пенсіянеры пераважна былі земляробамі, многія з нас яшчэ дапамагаюць дзецям абрабляць поле. Жанчыны даглядаюць каля сваіх дамоў прыгожыя кветкі, усе мы сеем і садзім яшчэ агародніну, бо не ўяўляем сабе, каб круглы год купляць агуркі ці памідоры. Раней гадавалі мы яшчэ кароў, але з уваходам Польшчы ў Еўрасаюз абвастрыліся ўмовы жывёлагадоўлі і таму многія сяляне адракліся ад гэтага занятку. Затое гадуем яшчэ, прынамсі на свае патрэбы, свіней і курэй. Адракаемся ад гаспадарання, калі ўжо з-за хваробы ўвогуле не можам працаваць. У нашых сёлах жывуць людзі працавітыя, а рух на свежым паветры, калі ён не надта цяжкі, патрэбны для нашага здароўя, — абагульніла старшыня Ірэна Раманюк і дадала: — Цяпер на пенсіі добра жывецца, каб толькі здароўе было.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# За Саколкай



— Першы прыпынак за Паплаўцамі, Воўкушы ці як — заказваю білет у шафёра.

— Ласосна.

Апошняя назва паяўляецца на тапаграфічнай карце, але неяк так нясмела — не як вёска, але як нейкае ўрочышча, месца без выразна пазначаных будынкаў. Выходжу з аўтобусіка, што з Беластока ў Кузніцу, на выбраным мною, а названым шафёрам, прыпынку. У амаль дажджлівае, шэрае надвор'е разглядаюся — у адлегласці каля паўкіламетра ад шашы віднее таямнічая стэла-капліца, што каля вёскі Воўкушы (пісала пра яе „Ніва" ад 19.09.2010 г.), пра якой узнікненне не захаваліся, ці пакуль што не знойдзены ніякія пэўныя весткі і можна толькі вельмі цьмяна здагадвацца пра яе прызначэнне-ахвяраванне...

Аднак у мяне намечаны іншы план, маршрут у супрацьлеглым напрамку. Іду асфальтоўкай, якой насціл нясе на сабе шматлікія раны ад доўгага змагання з усялякім транспартам: і латы, і выямкі, якія ў дажджлівае надвор'е сквапна напоўніла вада. Навакольны краявід перасечаны, нізы і вярхі па мясцовасці займаюць ахапкі маладога лесу; значыць, яшчэ не надта даўно яны натужліва абрабляліся сялянамі, а зараз той сялянскі наступ слабее.

Неўзабаве маім вачам паказваецца — за тыповай у нас вясковай хатай — доўгі будынак з каменнымі сценамі, які да тае хаты не надта пасуе. Мабыць, здагадваюся, гэта нейкая абора даўняга маёнтка. І сапраўды — неўзабаве, за паваротам асфальтоўкі паказваюцца разлеглыя „куксы" мажных сцен, зарослыя ўсялякай расліннасцю, на лагодна паднятым беразе рэчкі Ласосны, у нейкіх дзесяці метрах ад цячэння вады. Гэта рэшткі колішняга двара Ласосна-Вялікая. Пра той двор, так як і пра згаданую стэлу-капліцу — цьмяна-цьмяна... Верагодна зямельны надзел атрымаў там у пачатку XVI стагоддзя пісар караля Аляксандра Ягелончыка Васіль Дарашкевіч, а ягоныя наследнікі Боўфалы — так пайшла назва роду ад імя Васілёвага сына — пабудавалі некалькі навакольных двароў, у тым ліку і ў Ласосне-Вялікай; чаму занапаў апошні — даведацца мне не ўдалося.

Насупраць дворскіх руін, з супрацьлеглага боку рэчкі Ласосны, якая на акраінах Гародні ўлівае свае воды ў Нёман, высіцца крутая гара, якой адносная вышыня над наваколлем, па маёй ацэнцы, падыходзіць пад дваццаць метраў. З гэтай гары, ад дарогі, адабрана некалькі гадоў таму крыху жвіру і тая „рана" ўсё не можа загаіцца — амаль нішто на ёй не хоча расці, учапілася ў жвір толькі некалькі сасонак.

Не надта далёка ад гэтага месца чыгуначная станцыя Чупрынова, а за ёй аднайменная вёска. Будынак, які калісь быў узведзены для чыгуначных пасажыраў, зараз пусты, пад замкамі, але акуратна захаваны, без хуліганскіх „паправак". У вёску мне было не па дарозе, а зараз за ёй расходныя дарогі без паказальніка. Наўздагад выбраў я адну з іх і зайшоў на чарговыя расходныя, недалёка вёскі Парчаўцы. На раздарожжы крыж на каменнай падставе з 1901 года. З недалёкай хаты паказаўся каля фортачкі пажылы мужчына; заводжу з ім размову пра крыж, пра яго металічную агароджу. Агароджа не так старая як 111-гадовы крыж, але і не новая; выглядае свежай, бо нядаўна была памалявана.

Наогул пры прыдарожных крыжах стаяць нейкія кветкі, асабліва пры тых, што недалёка жылых хат. А тут я кветак не заўважыў, таму спытаў субяседніка, чаму іх няма каля крыжа. Аказваецца, што былі, але ўсё прыбралі, бо каля таго крыжа напярэдадні праводзілі пакойніка, 93-гадовую жанчыну. І на бягучы дзень чакаўся вывад чарговага, каля шасцідзесяцігадовага мужчыны. На маё пытанне, ці жанаты быў пакойнік, суразмоўца адказаў, што так і не. Значыць жыў ён з нейкай жанчынай, але без шлюбу...



Крыж у Парчаўцах



Адбудаваны двор у Талочках-Вялікіх



Касцёл Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыстовай у Саколцы

На субяседнікавым панадворку заўважыў я калодзеж, а насупраць, цераз дарогу — гідрант. Водаправод у Парчаўцы праклалі, як паведаміў мне суразмоўца, толькі ў мінулым годзе. Сам ён у сваю хату водаправода не ўсталёўваў, бо жыве ўжо самотна, аўдавеўшы; калі дачцэ, што жыве ў горадзе, спатрэбіцца, тады яна сабе правядзе...

У краму парчаўцы могуць падавацца ў адлеглую за тры кіламетры Клімаўку, але праз вёску ездзяць і аўтакрамы — па адной або і па дзве ўдзень. А школа — была калісь-калісь у Талочках, да якіх, як інфармуе раздарожны паказальнік, тры кіламетры. І ў напрамку тых жа Талочкаў адыходжу я.

У невялічкіх Талочках-Вялікіх кідаецца ў вочы двухэтажны мураваны будынак, размаляваны ў жывыя колеры, быццам нейкі чарадзейскі палац з дзіцячых мульцікаў. Гэта колішні двор. Мураваны будынак быў пастаўлены ў міжваенны час на месцы драўлянага. У выніку ваенных падзей двор апусцеў. З саракавых па сямідзесятыя гады працавала там школа. Калі не стала там дзяцей і апекі, будынак стаў занепадаць і на канец згарэў; асталіся ад яго толькі рэшткі мураваных сцен. Але знайшліся людзі, якія яго купілі і старанна адбудавалі...

На рачулцы па жвіроўцы з Талочкаў у Панятовічы арыгінальны масток сельскагаспадарчага дызайну з чатырох радкоў калодзежных кадлубкаў. Але трымаецца.

Паўвеку таму на гэтай тэрыторыі распасціралася Сакольская пушча, падзеленая пазней на чатыры г.зв. кватэры: Крынскую, Адэльскую, Малявіцкую і Кузніцкую. Для нагляду за Адэльскай кватэрай былі вызначаны асочнікі з Сухініч ды стральцы з Грабянёў (цяпер у межах Беларусі) і Малявіцы-Дольнай (цяпер Малявічы-Дольныя); Малявіцкай кватэрай займаліся асочнікі з Богушаў і стральцы з Малявіцы-Горнай (цяпер Малявічы-Горныя); у кожнай Малявіцы было па дваццаць дзевяць стральцоў. Ардынацыя каралеўскіх пушч ад 1641 года вырашала: „Powinien będzie każdy strzelec z włoki swey konia dobrego, a z dwóch włok wóz porządny drabiasty pod płachty i. k. mści mieć, z którymi w łowy, gdy im rozkażą, kiedy i kędy, na wiele niedziel, z chlebem wybrawszy się na miejsce naznaczone (nie wyprawiując nazbyt starych ani małych, ale chłopów hożych, sposobnych) stanowić powinni". Такая была задача колішніх жыхароў цяперашніх Малявіч.

Малявічы — Горныя і Дольныя, распаложаныя недалёка сябе, амаль паралельна, вуліцоўкі. Малявічы-Дольныя распаложаны бліжэй Панятовіч, таму і павярнуў я ў гэтую вёску. Вуліца там вымашчана брукам, хаты там традыцыйныя, вялікіх сучасных „палацаў" няма. Маю ўвагу прыцягнуў стары крыж на каменнай падставе са шчырай замовай: „1908 г. Od chorób, od piorunów, ognia i gradów i nagłej śmierci i od rużnych klensk żeby Pan Bóg zachował". Пасярэдзіне вёскі камунальны на від мураваны будынак, на якім шыльда бібліятэчнага пункта, а ў акне картачка з несмяротным зместам „zaraz wracam", які падказваў, што тая культурная ўстанова разводзіць кнігі „pod strzechy", пра што калісь марыў славуты зямляк з-пад Наваградка. Не стаў я, аднак, чакаць таго „zaraz", бо невядома, колькі яно дожылася б. Будынак, мабыць, мог калісь быць сядзібай Грамадскай рады, якая існавала там з 1954 да 1972 года і ахоплівала ў розны час вёскі м.інш. Номікі, Клімаўку, Панятовічы і Багонікі. Каля бяздзейнага пункту прыёму малака паказаўся быў на вуліцу мужчына, у якога я хацеў даведацца крыху пра будні ягонай вёскі, у тым і пра той бібліятэчны пункт, але жонка пільна выклікала яго ў хату.

У пачатку сёлетняга жніўня над Малявічамі прайшла ўраганная бура, якая пашкодзіла шмат дрэвастою. Яе сляды яшчэ не ліквідаваны на аўтобусным прыпынку, дзе два вялікія асіныя ралы спачываюць на паветцы.

Насупраць Малявіч-Горных яшчэ нядаўна стаяў вятрак. На вялікі жаль, да яго нядаўна падабраўся пажар і гістарычны мясцовы помнік моцна абгарэў і часткова абваліўся. Згаданы мужчына ўспеў мне сказаць, што пажару ветрака ніхто асабліва не даследаваў. Шкада гэтага ветрака, бо быў ён цікавай абарачальнай канструкцыяй, якую можна было падстаўляць пад напрамак ветру, каб найлепш выкарыстаць яго сілу. Праўда, цяпер ён, калі абгарэла вонкавая шалёўка, выдатна прагледжваецца, добра відаць вядучае кола, не відаць адно толькі, што яно прыводзіла ў рух і тых элементаў, праз якія праходзіла сыравіна каб стацца фінальным вырабам — хлебнай мукой. Крамы ў Малявічах не відаць, таму мабыць цяперашнія іх жыхары забяспечваюцца хлебам мабільнымі гандлёвымі ўстановамі.

Як тут не напісаць пра IX Дні нацыянальных меншасцей «Гданьскія біяграфіі», якія традыцыйна ўжо адбываюцца штогод у кастрычніку (18-21.10.2012 г.), калі з гэтай нагоды завітаў і ўдала выступіў на галоўнай сцэне тэатра «Выбжэжэ» вакальны калектыў «Жаваранкі» з маёй роднай вёскі Махнатае.

# Настальгія па страчаным раю

Тэкст і фота Міхася КУПТЭЛЯ

«Як я рады, што вас бачу! — прывітаў я махначоў з калектыву на плошчы перад слаўным молам у Сопаце. Сонечнае надвор'е, лёгкі, але пранізліва халодны вецер са стараны Гдыні адкідаў стомленасць па ўсяночным падарожжы з Махнатага. — Што ж вам у Сопаце яшчэ паказаць, апрача мола і слаўнага корза Монтэ-Касіна, плошчы Сяброў Сопата, калі за хвіліну хочаце яшчэ наведаць не меней слаўны Аліўскі парк?

Здымкі з плошчы перад молам на фоне Водалячэбнага дома і фантана, пры канцы мола, на дошках мола, на фоне Крывога дома няхай будуць ілюстрацыяй таго, што ўдалося мне паказаць за той абмежаваны час. Лена Глагоўская прыпомніла, што ў Сопаце перад вайной, у 1925 г., беларусы заснавалі сваю слаўную Грамаду, а цяпер існуе тут Беларускае культурнае таварыства «Хатка».

Настальгія па страчаным раю — такой была вядучая тэма IX «Гданьскіх біяграфій». Розныя прычыны прывялі беларусаў, украінцаў, яўрэяў, татараў, немцаў, літоўцаў і іншыя нацыі на Гданьскае ўзбярэжжа. Пішу Гданьскае, бо ўлады горада, свядомыя шматкультурнасці і нацыянальнай разнароднасці грамадства ў мінулым і зараз, поўнасцю не толькі фінансуюць згаданае мерапрыемства, але і дапамагаюць у арганізацыйным плане. Вядома, кожная нацыянальная меншасць прыгатавала сваю праграму на тэму настальгіі па страчаным раю.

Для ўкраінцаў гэта «Настальгія па страчаным раю: Украінцы ў Гданьску — ад акцыі «Вісла» па сённяшні дзень», фільм «Бяшчадскія іконы», мультымедыйная прэзентацыя «Настальгія» калектыву «Жураўлі», і прэзентацыя творчасці мастака Андрэя Мэнтуха — прафесара гданьскай Акадэміі выяўленчых мастацтваў. Частка ўкраінскай праграмы была прэзентавана 18 кастрычніка ў сядзібе Саюза ўкраінцаў Польшчы ў Гданьску (вул. Аксамітна, 4а).

Галоўная частка праграмы татараў, літоўцаў, немцаў, яўрэяў і беларусаў была прэзентавана ў пятніцу і суботу. У філіі Ваяводскай публічнай бібліятэкі (вул. Марыяцка, 42/43) адбылася літаратурная частка, у мячэці (вул. Абрагама, 17а) — рамесныя майстэрні — філіграны і семінар татарскай мовы, а ў Доме культуры (вул. Дворцова, 9) — канцэрты: Юлія Гульсман Трыо (джаз, Нямеччына), „Порт Монэ" (этнічная музыка, Беларусь), „Украініян фольк" (фольк-рок, Украіна).

У бібліятэцы па вуліцы Марыяцкай настальгічныя вершы Альгіса Уздзілы дэкламаваў у перакладзе на польскую мову перакладчык, брат паэта Язэп Уздзіла пры нагодзе прамоцыі зборніка вершаў «Liryki litewskie».

Для татараў, якія на працягу стагоддзяў пражывалі ў Вялікім Княстве Літоўскім, а ў цяперашні час жывуць у Літве, Беларусі ці Польшчы, страчаным раем з'яўляецца свая мова. «Татарскі шлях" прэзентавала Тамара Шабановіч разам з Назімам, татарам з Крыма, які прабуе польскім татарам прыблізіць забытую мову.

Жыццё і творчасць беларускай паэткі Наталлі Арсенневай, якая ў міжваенны перыяд жыла ў Хэлмне на Прымор'і, прэзентавала д-р Лена Глагоўская. Выбраныя вершы, звязаныя з галоўнай тэмай IX Дзён — настальгіяй па страчаным раю, у перакладзе на польскую мову чытала Аліна Крутэль.

Настальгіі па страчаным раю датычыў даклад д-ра Рамана Нечыпароўскага, а «Гданьск, якога больш не ўбачым — страчаныя жамжчужыны архітэктуры» — гэта тэма даклада Хрыстофа Яхімовіча.

У нядзелю на галоўнай сцэне тэатра «Выбжэжэ» выступалі вакальна-танцавальныя калектывы нацыянальных меншасцей: «Доброто», «Грыежа», Уршуля Макош з калектывам, Моладзевы калектыў рэгіянальнага танца «Сага», ну і на канец нашы «Жаваранкі». Канцэрты і спектаклі канчаліся дэгустацыяй нацыянальных страў.

Апрануты ў маляўнічыя нацыянальныя беларускія касцюмы вакальны калектыў з Махнатага «Жаваранкі» быў прыняты гледачамі тэатра «Выбжэжэ», можна сказаць, з энтузіязмам, нягледзячы на кароткае, 40-хвіліннае шоў. «Жаваранкі» выступілі не толькі на сцэне тэатра, але і пры Нептуне на Доўгім Таргу, галоўнай вуліцы старога Гданьска, адкуль ледзь удалося ім вырваць ад турыстаў і жыхароў горада, якія не толькі што рабілі здымкі з экзатычна ўбранымі артыстамі, але і дамагаліся спяваць і спяваць. Так ім спадабаўся беларускі спеў!










# www.smalensk.org

Напачатку з'яўлення ў „Ніве" тэматычнай старонкі www.БЕЛАРУСКІ-СВЕТ.NET пісалася, што сайты ў нечым падобныя на гарады — некаторыя з іх, адзін раз узнікнуўшы, існуюць доўга і нязменліва, некаторыя з часам цалкам змяняюць аблічча, папаўняюцца новымі „вуліцамі"-старонкамі, некаторыя змяняюць сваё імя, а некаторыя знікаюць з інтэрнэту, як пакінутыя людзьмі паселішчы.

Адным з нядаўніх пацвярджэнняў такога параўнання стаў сайт „Беларуская Смаленшчына", пра які наша газета пісала больш за пяць гадоў таму — у № 42 ад 21 кастрычніка 2007 года. Тады даны сайт знаходзіўся па адрасе smalensk.webstolica.ru. Цяпер яго адрас на новым хосцінгу — **www.smalensk.org**. Праўда, змена адраса сайта не надта значная падзея для „Беларускай Смаленшчыны", важней іншае — сайт значна змяніў сваё інфармацыйнае аблічча. Цяпер ён выглядае больш навукова-папулярным, дзе можна не толькі пачытаць аб беларусах на Смаленшчыне, але і азнаёміцца з цікавымі акалічнасцямі гісторыі ўзаемадачыненняў Вялікага Княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы.

Сур'ёзна змяніўся і дызайн сайта. Цяпер тут значна менш аздабленняў, нейкіх малюнкаў, затое значна больш стала мультымедыйных кампанентаў — як відэа, так і аўдыё.

Колькасць рубрык засталася прыкладна той жа, але назвы іх гучаць па-іншаму. Па-іншаму падаецца і прэзентацыя сайта, яго мэт і спосабаў іх дасягнення. Гэта можна заўважыць, зайшоўшы на нестворaную старонку „Пра нас". „Наш вэб-праект прысвечаны заходняй частцы Расейскай Федэрацыі, а таксама іншым беларускім землям за адміністрацыйнай мяжой", — гэта, пэўна, найбольш важнае адрозненне ад папярэдняй „Беларускай Смаленшчыны".

„Беласточчына, Віленшчына, Дзвіншчына, Пскоўшчына, Браншчына, Севершчына і Смаленшчына — гэта тое, што ўжо ніколі не будзе беларускім па прыкмеце дзяржаўнай ці адміністратыўнай. Аднак ці будзе там Беларусь культурная і нацыянальная залежыць толькі ад нас саміх", — слушна адзначае ідэйны натхняльнік сайта, які, як і раней, жадае застацца невядомым.

Што тычыцца мэт сайта, то сярод іх — папулярызацыя гісторыі і культуры Паўднёва-Заходняй Смаленшчыны; прапаганда беларускай свядомасці сярод смаленскіх беларусаў; асвятленне навін, якія тычацца беларускага насельніцтва Смаленшчыны; разгляд гісторыі і культуры іншых беларускіх маргіналіяў — Латвіі, Украіны, Польшчы і Расіі.

На новым сайце ў рубрыцы „Бібліятэка" цікаўны карыстальнік знойдзе шэраг кніг, якія так ці інакш датычныя беларусаў на Смаленшчыне. Больш таго, даныя кнігі можна спампаваць, каб потым прачытаць іх. Праўда, перад пампаваннем варта азнаёміцца з правіламі, якія не дазваляюць парушыць правы аўтараў кніг. Згодны гэтых правілаў, прачытаўшы кнігу ў электронным варыянце, чытач мусіць выдаліць яе са свайго камп'ютара, і, калі хоча, купіць папяровы варыянт выдання.

У рубрыцы „Медыя" асаблівае зацікаўленне выклікае падрубрыка „Аўдыё". Там прадстаўляецца магчымасць пачуць гаворку жыхароў заходняй часткі Смаленскай вобласці, ацаніць яе беларускую фанетыку і лексічныя асаблівасці.

Таксама сайт мае архіў, які змяшчае матэрыялы ад студзеня 2010 года.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

# БЕЛАРУСІ Скарбы

## Каласы Караткевіча

Многія з сённяшніх беларускіх дзеячаў фармаваліся пад непасрэдным уплывам твораў Уладзіміра Караткевіча. Можа выкажу крамольную для хрысціянства думку, але, чытаючы нашага вялікага пісьменніка, не пакідае адчуванне, што ён асабіста жыў у тую ці іншую эпоху, быў непасрэдным удзельнікам і сведкам далёкіх падзей рознага часу — ад ранняга сярэднявечча да XIX стагоддзя. Бо прачытаўшы нават самыя грунтоўныя дакументы, вывучыўшы ўсё, што напрацавалі да цябе гісторыкі і этнографы, нельга ведаць падрабязныя дэталі даўно мінулага. Для гэтага замала проста фантазіі і летуценняў, замала самага багатага ўяўлення. Гэта трэба проста ведаць — дар дадзены звыш альбо неверагодная генетычная памяць. Караткевіч — гэта наша ўсё, зямля пад белымі крыламі адарыла свой народ сапраўдным геніем. Такім, які літаратурна ўзараў глебу няпомнасці, засеяў яе жыватворным словам, ды так, што ўзышлі буйныя каласы нашага адраджэння. Канешне, былі і іншыя сейбіты і рупліўцы беларускага, але Уладзімір Караткевіч першы ў гэтым шэрагу. Паставіць пад сумнеў яго асобу як з'яву не толькі нашай літаратуры, але ўсяго беларускага космасу, не пасмее, не наважыцца ніхто.

У кожнага з нас свае любімыя творы Караткевіча. Іх можа быць некалькі, а нехта не здолее вылучыць з шэрагу аповесцей і раманаў лепшыя. Караткевіч адзін з нямногіх беларускіх пісьменнікаў, які папулярныя і на расейскай мове — яшчэ ў 1980-я гады шматлікія чытачы адкрывалі для сябе „Дзікае паляванне караля Стаха" менавіта ў перакладзе. Да слова, не так даўно ў Расеі быў выдадзены раман „Хрыстос прызямліўся ў Гародні", але ў вельмі няўдалым перакладчыцкім варыянце. Беларусу ж, канешне, Караткевіч куды больш можа адкрыць у арыгінале — на роднай мове. Уладзімір Сямёнавіч вяртаў цэламу пакаленню беларусаў не толькі старадаўнюю гісторыю і генетычную памяць, але і ўсю пяшчоту, мілагучнасць, звонкасць, глыбіню беларускага слова. Здаецца, што ён быў знаўцам усяго — прасачыце хоць бы беларускія назвы разнастайных кветак у яго творах. Уражвае і рознабаковасць яго пісьменніцкага дару — празаік, паэт, эсэіст, драматург, сцэнарыст. Як паэт, падаецца, Уладзімір Караткевіч не ацэнены належна да сёння.

Ніхто не пісаў так, як ён і пра каханне. „Ладдзя роспачы" ў гэтым сэнсе галоўны шэдэўр. Хоць твор не толькі пра каханне і можа быць не столькі пра каханне — колькі ўвогуле пра сэнс нашага жыцця на гэтай грэшнай зямлі. Караткевіч не быў святым у жыцці, але ён быў носьбітам святой ідэі — ідэі нацыянальнага Адраджэння, ідэі духоўнасці і шанавання чалавечай асобы. Сучаснікі прыгадваюць у сваіх успамінах як Караткевіч любіў жыццё ў розных праявах, як ён умеў яму радавацца, як ён бачыў тое, што іншыя зусім не заўважалі. Гэта адчуваецца і праз усю яго ную глыбінную творчасць.

Караткевіч вельмі любіў розныя асобныя гарады і мясцовасці нашай краіны. Гэта ён „прызямліў" у горадзе над Нёманам Хрыста, раскрыў багацці Мсціслава, Полацка, іншых месцаў. Беларусь вельмі шмат запазычыла класіку сваёй літаратуры. Ёсць помнік на яго радзіме, ёсць некалькі вуліц яго імя. Яшчэ ў савецкі час было створана некалькі кінастужак паводле яго твораў, перыядычна выходзяць кнігі ў розных варыянтах, але гэтага абсалютна мала, нікчэмна мала, мізэрна мала...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



Выступае старшыня Ян Каліноўскі

■ Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

# Бляскі і цені 40-гадовага юбілею

Субота 29 верасня запісалася ў календары чаромхаўскай арганізацыі Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў незвычайнай падзеяй. У гэты дзень адзначаліся два святы: 40-гадовы юбілей ПСПіІ ды Дзень сеніёра. Паколькі арганізатарам апошняй імпрэзы з'яўляўся Гмінны асяродак сацыяльнай дапамогі дык гміна запрасіла на сустрэчу ўсіх жыхароў пажылога ўзросту, прытым забяспечыла ўдзельнікаў транспартам. Рэклама мерапрыемства станоўча паўплывала на прысутнасць. Калі я заднавяскоўцамі заходзіў у залу, амаль усе крэслы былі заняты. Сказалі нам займаць „забраніраваныя" месцы. Удзельнікаў прыбывала. Сядзячыя за сталамі госці вымушаны былі сціскацца, каб памясціць прыбылых. У святкаваннях, па маёй ацэнцы, удзельнічала больш за сто чалавек. У гэтым ліку былі ганаровыя госці: старшыня Ваяводскага праўлення Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў у Беластоку Ян Каліноўскі, войт Юры Шыкула, старшыня Раённага праўлення пенсіянераў Юзаф Дубковіч ды старшыня прафсаюза чыгуначных машыністаў Лявон Купрыцюк, благачынны з Кляшчэляў а. Мікалай Келбашэўскі, настаяцелі Чаромхаўскага прыхода а. Юры Пліс і Кузаўскага а. Рыгор Наўмовіч, старшыня Рады гміны Надзея Суліма і яе намеснік Вячаслаў Барташэвіч, затым кіраўнікі сектараў гміннай адміністрацыі.

Першым слова ўзяў войт Юры Шыкула:

— Сённяшні дзень з'яўляецца незвычайным святам, — заявіў на ўступе, — таму, што адзначаем Дзень сеніёра і 40-гадовы юбілей Польскага саюза пенсіянераў. Няхай гэтая сустрэча будзе для вас, паважаныя сеніёры, днём радасці і весялля. Жадаю ўсім шмат цёплых і сонечных дзён, поспехаў і здзяйснення самых скрытых мараў ды моцнага, моцнага здароўя.



У гэты момант музыканты заініцыявалі „Многае лета", а ўдзельнікі застолля авацыйна падхапілі: — Многае лета, Многае лета...

— Гэты сціплы пачастунак, — прадаўжаў прамоўца, — падрыхтавалі працаўнікі Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі. Весяліць будуць варшаўскія музыканты. Дык вясёлай забавы!...

Да віншаванняў далучыліся старшыня Ваяводскага праўлення Ян Каліноўскі і благачынны з Кляшчэляў а. Мікалай Келбашэўскі. Апошнім выступіў Юзаф Дубковіч, які расказаў пра мінулыя будні пенсіянерскай арганізацыі, затым спаслаўся на сучасныя рэаліі:

— Чаромхаўская арганізацыя Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў налічвае чатырыста дваццаць членаў. У ваяводстве з'яўляецца адной са шматлюдных і актыўных арганізацый. Варта адзначыць, што ў гэтым коле знаходзяцца ветэраны. З першых дзён заснавання сваю прыналежнасць падтрымліваюць Альфрэд Часноўскі з Чаромхі-Станцыі і Янка Саўчук (с. Карпа — заўвага аўтара) з Кузавы. Для іх належыцца гонар і пашана. За асаблівыя заслугі для саюза, — канстатаваў прамоўца, — Галоўнае праўленне Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў у Варшаве прызначыла Залатыя ганаровыя значкі, а Ваяводскае праўленне ў Беластоку — ганаровыя граматы за шматгадовую дзейнасць. Віншуем!

Наступіла цырымонія ўзнагароджання заслужаных пенсіянераў. Перш-наперш старшыня Ян Каліноўскі ўручыў вялікую залатую адзнаку „За асаблівыя заслугі для ПСПіІ" Юзафу Дубковічу. Такія ж значкі (паменшыя) атрымала васемнаццаць чалавек, а дваццаць восем было ўзнагароджаных ганаровымі граматамі за шматгадовую дзейнасць. Апрача вышэйзгаданых для дваццаці пяці чалавек былі ўручаны віншавальныя граматы войта гміны.

Цырымонію ўзнагароджання завяршыў выступ школьнага гурту „Гілочка" пад кіраўніцтвам Ірэны Вішанка. Калектыў запрэзентаваў некалькі фальклорных песень са свайго рэпертуару.

На гэтым закончылася афіцыйная частка і пачалося святочнае застолле, але без ганаровых гасцей, якія сабраліся ў асобным памяшканні на паверсе. У зале засталіся адно сеніёры з музыкантамі. Але не нудзіліся. Гурт „Оксідэ" бадзёра іграў. Госці за сталамі не драмалі. Кружыліся ў танцы пары. Адборная кампанія была. Самі свае! Не кажы...

Я пакідаў вясёлую кампанію ў поўным разгары гулянкі. Забіраў з сабою адно невыпітую чару гарычы, якою пачаставалі арганізатары. Але гэта няважна...

# Адгаданка

Адгаданка

1. Барак, амерыканскі палітык, 2. прозвішча найслаўнейшага ўраджэнца Мастаўлян, 3. гутарковая назва ЗША, 4. дзяржаўная назва, якая з цяперашняй Беларусі эмігравала на паўночны захад, 5. невялікі лісцевы лес, 6. муж Магаметавай Фацімы, 7. каханне, 8. вірусная хвароба з запаленнем дыхальных шляхоў і гарачкай (*influenza*), 9. два напалову, 10. дзяржава пасярэдзіне Міжземнага мора, 11. праўда, якая вылазіць з мяшка, 12. вучэнне аб тысячагадовым царстве Хрыста перад канцом свету (*chiliasmos*), 13. абрэвіятура дзяржавы Сяргея Прытыцкага, 14. Алі Магамету, 15. даўganогая птушка трапічных краін, што жыве пры вадзе (*Threskiornis*), 16. правы прыток Нёмана з боку Койданава, 17. прозвішча шахматнага чэмпіёна свету ў 1927-35 і 1937-46 гг., 18. посуд для паення жывёл або птушак.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | | | | | | | |
| | 2 | | | | | | 3 | 4 | | | | |
| | | | | | | 5 | 6 | | | 7 | | |
| 8 | 9 | | | | | | | 10 | | | | |
| | | | | | 11 | | 12 | | | 13 | 14 | |
| | | 15 | | | | | | | | | | |
| 16 | 17 | | | | | | | 18 | | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — яўрэйская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 41 нумара**

Быкаў, Ілі, кава, кума, мера, мяжа, ода, поле, укол.

Рашэнне: **І камар адолее кабылу, калі воўк яму паможа**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

# 11.11 — 17.11

**(22.03. — 20.04.)** Збірай свае сілы, бо пасля 15 трэба будзе рабіць пару рэчаў адразу і дзень будзе закароткі. Пакажацца шанц выявіць усе свае тузы. Тыдзень паспяховы. Акупяцца ўсе фінансаўкладанні, а знаёмствы і паездкі будуць удалымі. У бізнесе выгадныя дагаворы і здзелкі, на працы павышэнне ці прэмія. Добры час займець сабаку ці ката.

**(21.04. — 21.05.)** Магчымая напруга паміж блізкімі. Лепш будзь прымірэнчым. У панядзелак з энергіяй бярыся за ўсе справы. У аўторак будзь крайне ўважлівым да свайго здароўя. У сераду бяры ўсё, што табе прапануюць. Чацвер творчы. У суботу справы пускай на самацёк.

**(22.05. — 22.06.)** Аж да 22.11. моцна падтрымліваюць цябе Шалі. У сэрцы — як у маі. 12-16.11. твае задумы выклічуць захапленне. 13.11. чакае цябе вельмі цяжкі момант (будзеш падмінаваны, знеахвочаны, а твае высілкі могуць пайсці ўпустую). На пачатку тыдня чакае цябе службовая паездка. Не вер нічому, чаго не ўгледзіш уласнымі вачыма.

**(23.06. — 23.07.)** Да 13.11. можаш трапіць камусьці ў вока! Цяпер мець вельмі высока, заплануй найцяжэйшыя дзеянні і справы. Будзеш мець добры апетыт і някепскае здароўе (на кароткі час можаш прастудзіцца). 13.11. зробіш штосьці супраць здаровага розуму; страціш мноства энергіі і каштоўнага часу. Дома ўвядзеш роўнасць у другой палове лістапада.

**(24.07. — 23.08.)** Людзі будуць да цябе вельмі ветлівыя, а блізкія сваякі акажуць табе ўдзячнасць. На працы прыбавіш тэмп і загоніш да работы рэшту. Рэалізуй старыя планы, супрацоўнічай. Новыя сустрэчы і раманы. Шанц пайсці ўперад у кар'еры. У пятніцу пільнуйся ад укусаў жывёл.

**(24.08. — 23.09.)** Тыдзень багаты ў незабыўныя падзеі. Росквіт пачуццяў (можаце ўжо планаваць супольна будучыню). Не пакуй грошай у няпэўныя інтарэсы. З 15.11. (да 19.11.) шанцы наладзіць карысныя знаёмствы; пры нагодзе даведаешся чагосьці, што прыдасца табе ў будучыні. Хаця шмат спраў можа ўскладніцца, можаш страціць цярплівасць да аднаго сваяка.

**(24.09. — 23.10.)** Тэмп жыцця цябе стоміць, спавальні, адпачні. Хаця ў гэты час будзеш ззяць красою і сексуальнасцю, прыцягнеш усё і ўсіх каго хочаш. У тваім жыцці адбудзецца штосьці новае і незвычайнае. Добра зарабіць можаш у супрацоўніцтве. Асабліва ў сераду справы пойдуць на рэдкасць удала.

**(24.10. — 22.11.)** Палепшацца твае сардэчныя справы, самотным Венера прынясе новае каханне, а ажыўленне ў пастаянных сувязях. З поспехам можаш здабыць заслужаныя грошы. Ды цалкавітае зацьменне Сонца 13.11. паграджае тваім інтарэсам і фінансам; не падпісвай ніякіх дакументаў; хтосьці, каму давяраеш, можа прынесці табе страту. Калі незнаёмы табе чалавек назаве цябе чужым імем, у тваім жыцці наступяць вялікія змены (прыйдуць агромныя грошы, з'едзеш у іншую краіну, чакае цябе славутасць).

**(23.11. — 22.12.)** Цяпер у тваім жыцці пачынаецца ўздым. Новыя знаёмствы, у тым ліку рамантычныя. Можаш шмат чаго дабіцца, не ўкладваючы ў справы нейкага высілку. Не гавары пра свае заробкі. У панядзелак будзь асцярожны з грашыма. У аўторак можаш дабіцца сустрэчы з высокапастаўленымі людзьмі. Трымай язык за зубамі, не выдавай сваіх сакрэтаў і тайных планаў. У суботу чакаюць цябе незвычайныя падзеі

**(23.12. — 20.01.)** Складаныя сітуацыі вырашацца самі. Не спрачайся, мірыся. 14-18.11. будзеш знеахвочаны, стомлены абавязкамі. Не дамаўляйся на бізнесовыя сустрэчы. У аўторак не адмаўляйся падзарабіць (за добрыя грошы). У сераду фізічна не напружвайся, не рабі больш чым можаш і не гавары аб тым чаго не ведаеш.

**(21.01. — 19.02.)** 12-16.11. будзеш мець шанц паказаць свае таленты, натрапіш на людзей, якія памогуць табе ў кар'еры. 13.11. не афармляй падатковых спраў. Дбай аб сябе, не рызыкуй (у другой палове месяца цікуюць за табой аварыі і скалечанні).

**(20.02. — 21.03.)** У шмат якіх справах выйдзеш на простую дарогу, пераможаш перашкоды. Ды пільнуйся: 12-16.11. можаш атрымаць памылковыя інфармацыі або не прыкмеціш важных дэталяў; лепш нічога не падпісвай. Не афармляй грашовых спраў 13.11.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Ратуйма Украіну, хлопцы! (3)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Дзесьці за Трускаўцом, на фоне Бяшчадаў, кінуўся ў вочы вядомы з польскай літаратуры ўказальнік: *Вэрныгора*.**

**Звычайны тут назоў мясціны прамаўляў як метафізічны знак, паколькі абазначаў імя карпацкага дзеда-вешчуна, які з дапамогай ліры прадказваў лёс краіны.**

**Станіслаў Выспянскі нічога не прыдумаў. Нідзе больш на свеце як у Прыкарпатыі людзі гатовы пагаварыць пра тое, што будзе пасля таго, што яшчэ не адбылося...**




Спачатку мы доўга блудзілі па вуліцах Дарагабыча, каб адшукаць адзіны ў горадзе гатэль „Вустынь". Не дапамагалі падказкі людзей, ні турыстычны даведнік з картай горада, а ўжо найбольш падводзіла логіка. З часам аказалася, што ўсяму закалоту вінаваты помнік на гарадской кругавой развязцы — касмічная талерка, што застаўляла кружыць вакол сваёй канструкцыі.

Папраўдзе, гэта было прадказанне знаёмства з мясцовым геніем астраномам.

Яго асоба, выкаваная ў бронзе, стаяла (без надпісу) на гарадскім скверы, ля каталіцкай кафедры і жыва напамінала Мікалая Капэрніка.

— Нічога не ведаю пра дарагабыцкі перыяд у жыцці Капэрніка!

Пра гэта маўчаў таксама польскі даведнік, які, здавалася, не абмінуў ніводнай драбніцы, звязанай з польскай гісторыяй ва Украіне. Загадка не давала спакою, бо непадалёк помніка знаходзілася яшчэ вуліца Мікалая Капэрніка...

Але як кажуць, язык да Кіева давядзе. Вядома, калі прамовіш на мове аўтахтонаў.

* * *

Дарагабыч прывітаў нас буйным цёплым ветрам, які дзьмуў з боку Карпатаў. Начаваць у гасцініцы савецкіх часоў „Вустынь" было цікава толькі з-за адной справы: па-суседску працаваў выбарчы штаб Партыі рэгіёнаў. Пабачыць ужывую гэтых дзелавітых людзей (такімі прыкідваліся ўсе рэгіяналы на выбарчых білбардах) здавалася цудам. За час чатырохдзённай пабыўкі на Заходняй Украіне толькі раз пашанцавала сустрэць іх прадстаўнікоў. І гэта быў свайго роду касмічны вобраз. У сінежоўтай палатцы выседжвала двух падшпаркаў у спартовых касцюмах, пад колеры партыі. Хлапчукі зусім не адводзілі вачэй ад сваіх смартфонаў, ім не цікава было адказваць на мае пытанні. Лістоўкі і выбарчую прэсу яны ўручылі без слова, як якія глухія і нямыя, пасаджаныя ў пары за нейкую правіну. Да часу — зразумела. Мова праравалася як гром з яснага неба, калі я зрабіла ім здымак. Напалоханыя да жывога хлопчыкі спачатку схаваліся пад стол, а пасля, зразумеўшы што адбылося, адзін з іх выбег з палаткі з плачлівым крыкам:

— *Нельзя! Нельзя фотографировать!*

Яшчэ больш уразіла захопленая на іх століку выбарчая газета, дзе на элегантнай, крэйдавай каляровай паперы аўтары лавілі за язык, значыць, папракалі кандыдатаў ад канкурэнтнай партыі „Свабода" ў кожнай драбніцы і мане. Найбольш аднак расчуліў нарыс пра юбілей Гарадка, якому Партыя рэгіёнаў абяцала годна і калярова адсвяткаваць 800-годдзе. Сцэнарый святкавання жыва напамінаў дажынкі ў Беларусі. Не абышлося і без гістарычнага дадатку. Карацей, аўтар спасылаўся на Галіцка-Валынскі летапіс, які зафіксаваў згадку пра Гарадок у 1227 і 1235 гадах, калі ў мястэчку прабываў князь Даніла Галіцкі, які рыхтаваўся даць адпор польска-венгерскай навале. Падобную ролю, чатыры стагоддзі пазней, адыграў атаман Багдан Хмяльніцкі, які з дапамогай братняй матушкі Расіі прагнаў з горада палякаў...

Добра, што пра пераможныя заваёвы, выцягнутыя з глыбі стагоддзяў і падагрэтыя на час выбарчай кампаніі, не даведалася наша палячка і шафёрка ў адной асобе. Менавіта гэта дзякуючы Т. мы цэлыя і жывыя перааддолелі Прыкарпатыю з нераманітаванымі ад сарака гадоў дарогамі.




* * *

Хоць паміж Украінай і Польшчай няма вялікіх перашкод у перасяканні мяжы, адчувалася, што краіны адвернутыя да сябе задам і шанц на бліжэйшае супрацоўніцтва тут адтэрмінаваны ў часе. Жалезны мур вырастаў з-за звычайнай эканоміі і фатальных дарог. Кожны, хто хоць раз праб'еўца па асфальтавым палатне, якое месцамі напамінае ўзбуранае незгінальнае мора, папярэдзіць дзесятага, каб абмінаць тое шчасце шырокім колам.

Найгорш у глыбінцы вечарам, калі вёскі і мястэчкі патанаюць у егіпецкай цемры. Пра тое, што набліжаемся да нейкай мясціны, прадказвала адна характэрная і не надта прыемная справа — разрэйданая да немагчымага асфальтоўка. Пасля ў вокнах дамоў ззялі агеньчыкі святла. Здавалася, што без канца ішоў тут працяглы дождж, які напоўніў мутнай вадой ямкі.

Каб толькі хутчэй апынуцца па другім баку мяжы! Ад думкі, што прыйдзецца спыніцца ў занядбаным гатэлі з працякаючай прыбіральняй, шорхла скура.

Найгорш, калі пачынаеш прывыкаць да такой безнадзейнасці...

Але свет не без добрых людзей і цудаў! У начным дажджлівым краявідзе што і раз сустракаліся прызнакі шчасця. У памяці застраг вобраз хлапчука, які адзінокі плёўся цёмнай дажджлівай вёскай і страсна вымахваў рукою ў паветры. У другой руцэ ён трымаў мабілку, цераз якую вёў ажыўленую бяседу. Ён нават не падняў галавы, калі мы яго абміналі з асцярожнасцю, едучы на першай скорасці. Дзесьці ў іншай вёсцы, па дзіравай як швейцарскі сыр вуліцы, дзе на першым і апошнім месцы бачыліся балота і гусі, якія плавалі ў калюгах, ішла сабе, трымаючыся за рукі, парачка. Дзяўчына была апранута ў ружовы плашч і туфлі на касмічна высокіх абцасіках-шпілях. Яе кавалер меў пастаўленыя на гель валасы.

Пад уплывам іх аптымізму нам лягчэй было прабівацца ўперад і думаць, што далей напэўна будзе ўжо лепш.

* * *

Пасяліўшыся ў гатэлі „Вустынь" мы рушылі на горад, каб наведаць раней ужо прыкмечаную кавярню „Бруна", названую ў гонар літаратара і мастака Брунана Шульца. Месца прывітала пахам кавы і шакаладных дэсертаў, пры якіх выседжвала моладзь. Кожны займаўся са сваім таблетам або айфонам...

Больш народны настрой панаваў у бары „Бістра фры", дзе ў хмарах папяроснага дыму жыва спрачаліся аматары піва. Уразіў падзел на мужчынскія і жаночыя столікі, а наша тройца толькі папоўніла гэтую схему. Хоць набліжалася поўнач, у бар усё заходзілі чарговыя групы мужчын і, без цырымоніі, ставілі на стол прынесены з сабой буталь гарэлкі. Нам пашанцавала вячэраць побач актывістаў Кангрэса нацыяналістаў. Дзядзькі распівалі гарэлку, пільна разглядаючыся па баках. Калі хто з іх хацеў нешта сказаць другому, нахіляўся да сярэдзіны стала і шэпатам аб'яўляў сваю тайну. Іх галовы хіліліся да сябе і час ад часу ўсе падтаквалі ў знак згоды. Дух канспірацыі мацавала давыбарчая прапаганда ў горадзе — на кожным слупе віселі партрэты іх кандыдатаў або герояў УПА...

Не спрацавала таксама нявінная спроба канфрантацыі. На пытанне: „да якой гадзіны працуе бістро?", кампанія паднялася з месца і пераселася ў другі край залы.

Нешта падобнае сустрэла нас ля згаданай кафедры, дзе спрабавалі мы высветліць тайну з Мікалаем Капернікам. Тайну дапамагла разблытаць старэйшая цётка, якая якраз пераходзіла цераз сквер. Жанчына ахвотна расказала нам пра Юрыя Драгобыча, вялікага астранома, прафесара Кракаўскага ўніверсітэта, у прыватнасці настаўніка і ментара Мікалая Капэрніка.

— А вы адкуль будзеце? — спытала яна.

— З Польшчы!

Апошні адказ не спадабаўся нашай субяседніцы. Яна адвярнулася задам і, не скрываючы расчаравання, падпіраючыся на кульбаку, павалаклася ў свой бок, канкрэтна на літаратурную вуліцу Кракадзілаў.

*(працяг будзе)*



ISSN 0546-1960